
Гулі за Гарадком ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Марцін Ліцьвінка ➔4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3149) Год LXI Беласток, 18 верасня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# У Беластоку, па дарозе на Менск



фота: www.racyja.com

**„Народны альбом”** у Падляшскай оперы і філармоніі! Калі прагучала гэтая навіна, падалася яна неверагоднай і — не буду таіць — авантурысцкай.

Бо, па-першае, як сабраць удзельнікаў таго легендарнага праекта другой паловы 1990-х гадоў, якія разбрыліся па свеце, а шляхі некаторых нават не перакрыжоўваюцца. А па-другое, каго сёння можа зацікавіць штосьці, што сышло са сцэны гадоў пятнаццаць таму? Можа якую жменьку сентыментальных 40-50-годкаў, якім пашчасціла ў маладыя гады пачуць ці нават пабачыць музычны спектакль на сцэне. На такі крок мог паважыцца толькі „Белсат”, які сам па сабе з'яўляецца авантурысцкім праектам і як быццам насуперак зямному прыцягненню, памаленьку дацягвае дзесяцігоддзя свайго партызанскага блукання ў эфіры.

Аднак, чым было бліжэй да фестывалю „Усход культуры / Іншае вымярэнне”, тым часцей званілі мне не толькі сябры, але і крыху прызабытыя знаёмыя з адным пытаннем: ці не дапамагу я ім папасці на канцэрт? Ясна, што дапамагчы я ім не мог, але зразумеў, што не магу праспаць і трэба зрабіць усё, каб забяспечыць прынамсі сваю сям'ю квіткамі. А тым часам наракані на недасяжнасць уступных квіткоў разыходзіліся вокамгненна і надзвычай шырока, як у рэальным жыцці, так і ў інтэрнэце. Нагадаю, што былі яны дармовыя, тым не менш былі. Дзесьці, бо не ў нас — так прынамсі пацвярджалі абураныя беластачане, гатовыя з-за гэтага бэсціць не толькі арганізатараў, але і сам праект. Жарсці выраслі да такога ўзроўню, што за спосаб распаўсюду запрашэнняў давялося тлумачыцца ажно самой дырэктарцы „Белсата” Агнешцы Рамашэўскай-Гузы. І хаця яна выклала ўсё даволі ясна — не дапамагло.

Калі будучыя і патэнцыйныя гледачы вывалі жоўць у сецыве, музыкі — пот на рэпетыцыях. Удалося ўсё-такі сабраць галоўных спевакоў і музыкаў: Лявона Вольскага, Касю Камоцкую, Вераніку Кругловy, Аляксандра Памідорава, Зміцера Вайцюшкевіча і Сяргея Ахрамовіча. І разбудаваць інструментарый — гурт *NRM*, які на той час на сваіх плячах нёс галоўны цяжар акампанементу, замянілі два новыя: *Apple Tea* і *Aquarelle Qartet*. Да таго дайшлі хоркі і група маладых акцёраў-аматараў, але каб пабачыць увесь размах аднаўленага спектакля, трэба было... чакаць выступу ў Падляшскай оперы, бо тых аскепкаў інфармацыі, якія час ад часу арганізатары ўкідалі ў інтэрнэт, было малавата, каб склеіць з іх верагодную карціну таго, што нас чакала.

На канцэрт ішоў я — не скрываю — з хваляваннем. Не перажываў за мастацкі ўзровень спектаклю. Прафесіяналізм вакалістаў ды інструменталістаў гарантаваў высокую якасць выканання. Баяўся іншага: ці ўдасца зберагчы той энтузіязм, які нёс выканаўцаў ды падымаў публіку з крэслаў напрыканцы мінулага стагоддзя. Тады канцэрт сарваць нічога не магло, ні кепская апаратура, ні нават дождж, які ліўся не толькі на галовы выканаўцаў, але і на інструменты ды электрычныя правады, што рэальна пагражала здароўю і жыццю артыстаў (так было ў 1999 годзе ў кракаўскім Барбакане, пасля чаго з'явіўся суперзапіс Кракаўскага аддзела Польскага тэлебачання). Хвалявалася таксама Агнешка Рамашэўская-Гузы, якая частку свайго прывітальнага слова сказала без карткі па-беларуску. І гэта зразумела, бо накапілася столькі эмоцый, што разрадзіць іх магла толькі музыка. Нарэшце пачалося!

Нарэшце некаторыя маглі прыпомніць, а іншыя першы раз убачыць і пачуць, што ўяўляе сабою „Народны альбом”. „Гэта спроба стварэння мікраэпасу памежнага мястэчка, апошняй незатопленай выспы колішняга кантынента — Вялікай Літвы”, — напісаў яшчэ ў 1999 годзе стваральнік канцэпцыі праекта і аўтар большасці тэкстаў песень Міхал Анемпадыстаў („Уступ, Народны альбом”, Беласток 2000). І хаця месцам падзей было абранае рэальнае мястэчка Ракаў на даваеннай польска-савецкай мяжы — цэнтр кантрабандыстаў, шпіёнаў, прастытутак і наогул тых, хто *робіць цёмную справу*, то гэта аказалася містыфікацыяй. „Гэта, хутчэй наш уласны, створаны для саміх сябе свет, які не толькі больш не існуе, але якога нават ніколі не было — шчыра, хоць крыху свавольна, патлумачыў Анемпадыстаў (буклет „Народны альбом. 20 год”). „На самой справе, гэта выдатны жарт менскіх музыкаў са стыляў, модаў, гістарычных міфаў, абдуральных лозунгаў. (...) музыкі пераапранутыя адпаведна да эпохі ігралі полькі, танга, савецкія маршы, нямецкія вальсы, застольна-бяседныя і лірычныя песні пра каханне і шмат якой яшчэ пароды на модныя ў поп-культуры плыні. Менскія музыкі аказаліся быць яшчэ і дасканалымі акцёрамі, а ўжо асабліва сэрца публікі пакарыў Аляксандр Памідораў...”. Гэтай цытаце амаль столькі гадоў, што самому праекту. „Найважнейшая музычная падзея года” — пісаў я ў „Ніве” ад 8 лістапада 1998 года пасля бельскай „Бардаўскай восені”. Такімі ж словамі мог бы апісаць і сёлетнюю падзею, уключна з роляй Памідорава, які быццам бы трымаўся другога плана, але быў адной з галоўных асоб на сцэне і, трэба сказаць, глядзеўся вельмі каларытна. І нават такім жа самым цэлафанавым пакетам паддаваў рытм чырвонаармейцам. А калі заспяваў „Ломір зіх ібэр-бэтн”, публіка адрэагавала авацыяй.

— Я проста абавязаны „Народнаму альбому”, з якога фактычна пайшла мая творчасць, — сказаў Аляксандр Памідораў у тэлепраграме „Беларускі тыдзень”. — Падмурак сольнай кар'еры Зміцера Вайцюшкевіча таксама закладзены ў „Народным альбоме”. Пры гэтай нагодзе публіка другі раз пачула пра Вераніку Круглову, якая крыху раней атрымала прыз на адным з першых „Славянскіх базараў” у Віцебску.

На той час былі ўжо вядомыя Кася Камоцкая і Лявон Вольскі. Кася і цяпер бравурна праспявала „Танга кантрабандыста”, „Аліцыю” „Паляўнічага” ці разам з Лявонам „Два польскіх шпіёнаў”. На Вольскім, практычна, трымаўся ўвесь канцэрт. Ён спяваў большасць песень, столькі разоў пераўвасабляўся, што нават цяжка палічыць. Але перш за ўсё, трымаў парадак, дысцыпліну канцэрта. *Што тут дадаць? / Хіба што нічога*. Хай скажа сам артыст (з таго ж „Беларускага тыдня”):

— Вельмі хацелася б яшчэ сабраць гэтым складам і сыграць яшчэ не адзін канцэрт. Гэта вельмі цяжка зрабіць. Тым не менш, тут ёсць адна акалічнасць, якая гэтаму спрые: музыкі іграюць не для нейкіх ганарараў, а нам усім проста падабаецца гэта рабіць.

Так як падабалася ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Непаўторную, творчую і дэмакратычную атмасферу ў час стварэння „Народнага альбома” ўспамінаў на Радыё Рацыя Цэзары Галіньскі — тадышні менскі карэспандэнт „Выбарчай газеты”, а сёння супрацоўнік „Белсата” і аўтар тэкстаў успомненага канцэртнага буклета.

— „Народны альбом” ствараўся ў калектыве беларускамоўнага камерцыйнага „Радыё 101,2”. Іх офіс быў на вуліцы Рэвалюцыйнай, а мая кватэра — на суседняй Інтэрнацыянальнай. Часта кампанія перабіралася да мяне, працягвала дыскусіі, можа хтосьці штосьці і запісваў. У гэтым працэсе прымалі ўдзел не толькі паэты ды музыкі, але і журналісты, калегі па працы.

Вось менавіта, што з гэтага маладога энтузіязму ўдалося зберагчы сёння. Такое пытанне хацеў я задаць Міхалу Анемпадыставу. На жаль, ён не мог быць на канцэрце. Тым не менш, на некалькі пытанняў адказаў пасля яго:

— Ці я спадзяваўся на тое, што „Народны альбом” будзе кагосьці цікавіць праз дваццаць гадоў? Так, спадзяваўся. А потым узнікла ўсведамленне таго, што ён стаў часткай беларускай культуры і ўжо з яе не вываліцца. Ён шматузроўневы, шматгранны і шматсэнсавы. Кожны можа знайсці ў ім сваё. Нават тое, чаго ў ім няма. Што да канцэрта, то я не магу каментаваць тое, чаго не бачыў. Я адказваю за словы песень і заднікі сцэны. Канчатковы прадукт гэтага во праекта — ягоная тэлеверсія. Яе яшчэ трэба зрабіць, я хутчэй за ўсё буду браць удзел у працы над тэлеверсіяй і буду імкнуцца зрабіць усё, што ад мяне залежыць, каб атрымаўся якасны прадукт.

Што можа зрабіць Міхал Анемпадыстаў — было відаць на сцэне, фон якой складалі відэапраекцыі ягоных графік. Канчатковая тэлевізійная версія „Народнага альбома” мае быць гатовая ў снежні. „Белсат” пакажа яе на Каляды. Апрача гэтага, будуць растыражаваныя відэадыскі са спектаклем. Ёсць вялікі шанц, што музычны спектакль у Беларусі перастане быць легендарным, а стане рэальным, прысутным у культурным дыскурсе. Як бы нам не было прыемна, што аднолены „Народны альбом” паставілі ў Беластоку, што на Беласточчыне ён з'явіўся зараз пасля менскай прэм'еры (на „Бардаўскай восені” ў 1998 годзе, а ў Беластоцкім лялечным тэатры — у 2000), што ў нас з'явілася двухмоўная кніжка ўжо ў 2000 годзе, а ў Менску толькі на беларускай выйшла ажно восем гадоў пазней, то цяжка не пагадзіцца з Агнешкай Рамашэўскай-Гузы, якая са сцэны Падляшскай оперы і філармоніі выказала шкадаванне, што падзея не магла адбыцца ў сталіцы Беларусі. „Я аднак упэўненая, што і на гэта прыйдзе час”, — улівала яна надзею ў сэрцы соцень сабраных там грамадзян Рэспублікі Беларусь. А слухалі яе, між іншым, тры былыя кандыдаты ў прэзідэнты РБ і адзін рэальны кіраўнік краіны ў пачатку яе незалежнасці. Вось вам і адказ, дзе дзеліся білеты. Не змарнаваліся.

Мікола ВАЎРАНЮК





# Адмучыліся

Так званыя „парламенцкія выбары” ў Беларусі скончыліся. Адмучыліся шматлікія кіраўнікі адміністрацый, прадпрыемстваў, навучальных устаноў, змушаныя заганяць падначаленых ім людзей ісці на выбарчыя ўчасткі і аддаваць свае галасы. Адрапартавалі наверх старшыні камісій, некаторыя спрытныя як ілюзіяністы, іншыя, асабліва з меншым досведам, няўклюдныя, але ўсе вытрыманыя ў сваёй місіі выканаць „свяшчэнный долг перад ацечаствам і рукаводствам”. Заранёў вызначаныя больш ста „народных абраннікаў” задаволена пагладзілі жывоцікі і іншыя часткі цела — бальшыня з іх застануцца ў цёплых утульных крэслах, некаторыя ўпершыню ўздымуцца ў саму сталіцу на хлебныя месцы. На „окормление”, як сказалі б у старажытнасці. Разышліся па хатах з прэміяльнымі ганарарамі за ўдзел тысячы членаў участковых камісій, якія былі вінцікамі і шрубкамі ў вялізнай махіне фальсіфікацый. Бальшыня з іх хоча верыць, што яны нібыта нічога і не фальшавалі, але ж сумленне, у каго яно засталося, проста ў кішэню не схаваеш. Сустрэў я нядаўна даўняга прыяцеля, настаўніка школы, шараговага сябра ўчастковай камісіі. „Ты ж быў раней адным з сумленнейшых людзей сярод усіх нашых сяброў і знаёмых, — кажу яму, — навошта табе ўдзел у гэтых камісіях?!”. У адказ ён счырванеўся, замахаў рукамі і папрасіў не гаварыць больш на гэтую тэму. На тым і разышліся.

Не абышлося, праўда, на гэты раз і без парачкі сюрпрызаў на фінішы выбарчай „перагонкі”. У дзвюх акругах у палатку прапусцілі дзвюх жанчын з дэмакратычнага стану. Хутчэй усяго, толькі на гэтых дзвюх акругах выбары і не былі сфальшаванымі. Хоць і тут ёсць свае акалічнасці. Улада РБ настойліва імкнецца атрымаць міжнароднае прызнанне, таму стварэнне падабенства апазіцыі ў парламенце — патрэба часу і цяжкай сітуацыі. Апазіцыянераў у „чырвонай палатцы” не было ажно з 2004 года. Што датычыць персаналій, то прадстаўніцу Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганну Канапацкую прапусцілі па акрузе, дзе балатавалася нядаўняя кандыдатка ў прэзідэнты Таццяна Караткевіч. Падтэкст зразумелы: куды табе кабета ў прэзідэнты, калі ты не можаш нават выйграць у нікому невядомай прэтэндэнткі. А перамога Алены Анісім з Таварыства беларускай мовы абумоўлена хутчэй усяго ростам цікавасці ў грамадстве да ўсяго беларускага — мовы, культуры, нацыянальнага адзення. Неяк мусіць прыстасоўвацца да гэтага і дзяржава. Алене Анісім можна толькі паспачуваць — вакол яе адной будзе 109 рускамоўных дэпутатаў. Але будзем усё ж спадзявацца, што ёй удасца хоць у нейкай ступні лабіяваць пашырэнне ўжытку беларускай мовы ў краіне.

Адпакутавалі праваабаронцы і незалежныя назіральнікі, змушаныя чарговы раз назіраць за згвалтаваннем заканадаўства, прыстойнасці і здаровага сэнсу. Псіхалагічна назіральнікам надзвычай цяжка. Гэта ўсё роўна, як ты ведаеш, што вось тут, у гэтым месцы, адбудзецца згвалтаванне, але перапыніць табе яго не ўдасца — а ўсё, што ты можаш — гэта зафіксаваць падрабязнасці і дэталі гэтага згвалтавання. Прычым не спадзеючыся, што заўтра цябе выклічуць у суд як сведку. А калі і выклічуць — то хутчэй у іншай іпастасі. Здымаю капялюш перад тымі людзьмі, якія вытрымана з кампаніі ў кампанію па ўсёй краіне фіксуюць парушэнні заканадаўства, літаральна ловячы злачынцаў за руку.

Асобнай размовы заслугоўваюць і дэмакратычныя кандыдаты. Пераважная бальшыня з іх толькі імітавала выбарчую актыўнасць, а дэкларацыі „ісці да канца” не падмацоўваліся рэальнымі дзеяннямі і змаганнем за галасы выбарцаў. Мне асабіста зразумелая і блізкая пазіцыя тых, хто правёў агітацыйную кампанію, скарыстаўшыся такім законным правам, а потым зняў сваю кандыдатуру. Разумею і тых, хто актыўна пісаў скаргі, імкнуўся бараніць свае законныя правы. Але такіх сярод дэмакратычных вылучэнцаў былі толькі адзінкі. Бальшыня ж паспяхова адыграла сумную ролю статыстаў у чарговым спектаклі-фарсе, які народ даўно ўжо называе „вырабамі”.

Адмучыліся...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Што з дубінкамі?



Малады чалавек, якому было зададзенае пытанне замежнай журналісткай, за каго ён прагаласаваў, толькі паціснуў плячыма.

— А на каго ж? На работніцу пякарні, паказаную ўладамі, якая абяцае правесці рамонт тратуара на галоўнай вуліцы горада? Або на слесара ў разбураным заводзе, які заклікае да большай прадукцыйнасці працы? Гэта ж не мясцовыя выбары!

У нядзелю ў Беларусі завяршылі асноўнае галасаванне ў выбарах у ніжнюю палату парламента — Палату прадстаўнікоў. Гэтаму папярэднічалі 5 дзён датэрміновага галасавання, у якім прыняло ўдзел, паводле афіцыйна не пацверджанага даследавання, каля 25% выбаршчыкаў. Калі я пішу гэтыя словы, агульная яўка выбаршчыкаў ацэньваецца ў 65-73%. Магчыма, у значна меншым працэнце пераможцамі выбараў акажуцца кандыдаты, вылучаныя ўладамі. А як наконт апазіцыі?

За 110 месц стараліся 485 кандыдатаў, у тым ліку каля 180 прадстаўнікоў апазіцыі. На выбарах у 2012 годзе за выбар у Палату прадстаўнікоў кандыдатаў змагалася 293. Апазіцыя была прадстаўлена 46 чалавекамі. Ні адзін з іх не трапіў у парламент. Сёлета, у год эканамічна-гаспадарчага крызісу, калі Беларусь шчыра імкнецца да 3-мільярднага крэдыту ад Міжнароднага валютнага фонду, магутнай фінансавай установы вельмі чулай да парушэнняў грамадзянскіх правоў, цалкам магчыма, што па крайняй меры адзін апазіцыйны кандыдат атрымае выбарчы мандат. Гэта вельмі шмат. Гэтага недастаткова. На самой справе, столькі што нічога.

У выбарах прынялі ўдзел усе асноўныя апазіцыйныя групоўкі: Аб'яднаная грамадзянская партыя, Партыя БНФ, партыя «Справядлівы свет», рух «Гавары праўду». І гэта добра, што на гэты раз верагодна ад больш дзясятка гадоў недэмакратычных выбараў не байкатавалі. У грамадстве, такім паслухмяным аўтарытарнай уладзе, варта нагадаць аб сабе моцным голасам. Тым больш, што ўлады дзеля добрай рэпутацыі на Захадзе (глядзі: крэдыт) не могуць дазволіць сабе на стандартнае закліноўванне апазіцыі. Абышлося на гэты раз без прэвентыўных арыштаў актывістаў апазіцыі, знішчэння агітацыйных плакатаў, адміністрацыйнага закрыцця памяшканняў, якія арандуюцца для агітацыйных сустрэч. Кожная з партый або іншых рэфарматарскіх рухаў магла прадставіць свае палітычныя праграмы для больш шырокай грамадскасці — без праверкі дакументаў іх удзельнікаў, без збіцця іх у брамах, без запалохвання. Ва ўсякім разе, больш-менш ад года, рэпрэсіўнасць улады апранулася ў мяккія аксаміты толькі адміністрацыйнага ціску, караючы пад абы-якой падставай занадта ўпэўненых праціўнікаў рэжыму ў не больш чым штрафамі. Іншая справа, што штрафамі жахлівымі як на беларускія рэаліі і канчаючыміся займаннем уласнасці, не толькі «віноўнікаў», але і членаў іх сем'яў.

Выбары ўлад, у любой палітычнай сістэме, маюць у сабе штосьці з д'ябальскіх кірмашоў. Лепшым прыкладам гэтага з'яўляюцца ў цяперашні час Злучаныя Штаты Амерыкі — Амерыка Хілары Клінтан ці Дональда Трампа. Ці сённяшняя Польшча. Іх мэтай заўсёды з'яўляюцца душы выбаршчыкаў. Кірмаш заўсёды канчаецца д'ябальскім актам, толькі што падпісаным большасцю, якая сваёй воляй галасуючых. Праціўная яму меншасць, воляй-няволяй, панявольваецца воляй большасці. Тым больш, чым менш дэмакратычная сістэма, у якой робіцца д'ябальскі акт. У Беларусі няйначай, выбары ўжо адбыліся, большасць — верагодна, лаяльная да цяперашняй улады — зноў-такі аддасць у няволю супрацьўляючуся меншасць. Як на беларускія стандарты, няволя апазіцыйнай меншасці павінна быць да часу атрымання крэдыту ад МВФ досыць цывілізаванай. Адміністрацыйныя штрафы гэта не дубінкі, не турма. Але што адбудзецца, калі тры мільярды долараў ад МВФ падмацуюць абанкручаныя банкі ў Беларусі? Што будзе з беларускай апазіцыяй — ці ўлада задаволіцца праверанай тэхнікай нішчэння апазіцыі штрафамі? Што з дубінкамі? Што з прыслужлівай ёй судовай сістэмай? Як я прачытаў у нядаўніх справаздачах агенцтваў, амаль усе апазіцыйныя партыі прэтэстуюць супраць выбарчага фальшавання. Яны лічаць, што выбары не былі сумленнымі. Што на гэта скажа «падтакваючая» большасць?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Свая памяць

Цудоўнай была нядзеля 11 верасня 2016 г. У летніх прамянях сонца купаліся ўсе. Людзі інтэнсіўна стараліся ўвабраць у сябе моц цяпла і пяшчотны водар прыродных пахаў. Усе, хто мог, стараліся апынуцца на прыродзе і палюбавацца прыгажосцю гэтага свету. Прагулачныя і роварныя дарожкі былі перапоўнены карыстальнікамі. Нашы меншыя жывёлы — сабакі і каты з лянівасцю грэлі свае косці ў сонцы і цёплым пяску. Спелая радасць і рэфлексія злому летняга і восеньскага перыядаў. Бабіна лета ўжо не за парогам. Менавіта 11 верасня праваслаўныя беларусы Падляшша адзначаюць свята Усячэння галавы Іаана Хрысціцеля, у народзе званага проста Галавасекам. Прызнаюся шчыра і без біцця, што вобраз адсечанай галавы святога быў адным з самых адчайных вобразаў майго дзяцінства. Калі разам з мамай хадзілі мы на багаслужбу ў сваю царкву і я, дзіця, разглядаў распісаныя там іконы з біблейскімі сюжэтамі, то вобраз адрэзанай галавы на талерцы выклікаў у мяне дрыжыкі і сапраўднае адчуванне Божага страху. Гэтая выява — адна з самых жорсткіх у іканаграфічнай гісторыі хрысціянства. Таму нічога дзіўнага, што ў павер'ях нашых продкаў таксама адчуваўся пераможны страх перад карыстаннем у гэты дзень сякерай ці нажом. Нават хлеб ламалі, а не кроілі. Ну і не спажывалі яды на круглых талерках. Зараз пра гэта ніхто не памятае, але тое, што гэта посны дзень, застаецца надалей у свядомасці кожнага верніка. Свята Галавасека ў многіх парафіях з'яўляецца таксама днём памінання сваіх продкаў на могілках. Так ёсць і ў маёй Вярстоцкай парафіі. Вядома, Праваднaя нядзеля з'яўляецца той кульмінацыяй велікоднага перыяду ўшаноўвання адышоўшых, але і на Галавасека пушчанскія могілкі ў Вярстоку напаўняюцца размовамі людзей. І дай Божа, каб так было заўсёды.

Таму, нягледзячы на розныя выклікі і перашкоды, паехаў я ў свае мясціны памаліцца і задумацца над магіламі продкаў, аднавяскоўцаў, пушчанскім родам. Вельмі асаблівым склаўся каляндар прыхадскіх святаў у маёй парафіі — такім хіба, як яе адзываючы народ. Два тыдні раней, 28 жніўня, святкуецца ў нас Успенне Прасвятой Багародзіцы (пра што мы нядаўна пісалі ў «Ніве»), 11 верасня — Галавасека, а праз два тыдні 27 верасня ізноў сустрэнуцца тыя, што змогуць з'явіцца на свяце Уздзвіжання Крыжа Гасподняга. Месяц часу інтэнсіўнай духоўнасці і рэфлексіі. Кумуляцыя зямных і нябесных эмоцый, якія даюць жыватворнае памкненне да сямейна-кананічных слоў майго таты: «Дай Божэ, коб за год прыждалі за сім столом усі разом». Словы, якія чуеш, калі вяртаешся толькі што з месца вечнага спачыну продкаў, напаўняюць цябе такім дабром, што слёзы кружацца ў вачах. І ўзгадваеш тых, з якімі ўжо ніколі не сядзеш за стол у тым вокамгненным, зямным жыцці.

Сонечнае надвор'е і нядзеля на пушчанскі могільнік прывяла не толькі мясцовых прыхаджан, але і такіх выхадцаў як і я. Бо, нягледзячы на тое, што зараз жыву ў Беластоку, надалей лічу сябе менавіта вярстоцкім прыхаджанінам. Найлепей адчуваю сябе ў пушчанска-пясчанай прасторы з людзьмі, якія натуральным чынам разумеюць прыродны і Божы парадак гэтага свету. І няма тут аніякага супрацьстаяння, а наадварот — гарманічнае ўзаемасуцяшэнне давала і дае ім сілы перапрываць найбольшыя цяжкасці і трагедыі. А хапала іх у мінулым, і зараз таксама іх аж надта многа. Блукаючы паміж магіламі, прыглядаючыся фатаграфіям спачываючых там сваякоў і знаёмых, здавалася мне, што вось гавару з імі ўсімі там, пад царквою. У нас так гаварылі і пыталі: ці будзеш, або каго ты бачыў пад царквою? Свецкае і грэшнае не магло пераступіць парога царквы. У царкве ў маўчанні і пакорлівасці пушчанскія людзі слухалі нечага таемнага. Асабліва мужчынскі род тонкасці і светагляду, і мовы выразна вылучаў. Жанчыны ішлі ў царкву, а мужчыны спыняліся каля яе. Бо ж трэба было абмеркаваць і гаспадарчыя справы, і палітыку, і пажартаваць з прымяненнем слоў, ад якіх, як далікатна гавораць, вушы пухнуць. А мне хочацца тое ўсё ўзгадваць, каб як найдаўжэй захаваць у нашай чалавечай памяці.

**Яўген ВАПА**

# Гулі паміж Гарадком і Меляшкамі

**Было. Каля святліцы, і каля крыжоў, размаляваных у калёніі Меляшкі і самой вёсцы — была нагода сустрэцца, памаліцца, паспяваць, і пагуляць... І добра натаптацца, каб багата было, і перад сваімі, і перад гасцямі. На вячорках з песняй ды жартам і сцэнкамі, на святы. Лёня Лавіцкая, цяперашняя солтыска, найбольш тапталася пры гасціне, і Ліля Лотыш, і іншыя. Наймілей пры нагодзе прыемнай, урадлівай — на Спленне. Пасля малітваў у Прачысценскай царкве ў Гарадку з падзякай за добры ўраджай і малебнам за вёску, збіраліся ўсе хто хацеў і хто даклаўся хоць крышку да бяседы — у той пекнай і выгаднай святліцы.**

Пад Спленне ў Меляшках заўжды быў баль! Пры славутых крыжах, што паставілі і размалявалі сябры „Зоркі", бацюшка служыў малебен. За ўсіх жывых меляшкоўцаў, якіх меншае з году ў год, але і расце іх лік — пасяляюцца новыя. А гуляць яны і любілі, і любяць. Пасярод вёскі, пры краме — тая святліца. Тут сабрацца трэба ўсім. Хоць Марта Герасімчук у першы момант казала: „Не пайду я на герыятрыю!". Заглядвала ўсё ж на імпрэзу, а сёння — з малой дачушкай. Але ўжо ў Белявічах. Гэта пасля таго, як «Бомба» разбіў новую святліцу ў Меляшках, уехаўшы ў яе сваім паношаным аўто. Фірма „Яр-Дом" хвалілася была пару гадоў на сваім сайце: у мясцовасці Меляшкі ў Гарадоцкай гміне выканалі яны рамонт святліцы, які палягаў на яе зносе, абмене старых канструкцыйных элементаў будынка, абмене кроквяў, аконнай сталяркі, пакрыцця даху, выліцці паласы ўзмацняючай падмурак, мантажы шалёўкі і комплекснай апрацоўцы інтэр'еру. Новая святліца проста зіхацела! Пасвенцяць яе айцы Астапчук і Кахаһоўскі, разрэжуць стужку войт Кулеша, дырэктар Хмялеўскі і солтыска Назарка ды радная Врублеўская. Былі прамовы, віншаванні і абяцанні. Пасля ўсе заселі за сталы, зайграла капэла „Хутар". Ці будзе як калісь?..

Паміж Гарадком і вёскай Меляшкі, што расклалася на старажытным грудзе, больш як паўтысячагоддзя таму была мокрая даліна, кажуць, мажа і возера. Тое возера ўявіць няцяжка — хопіць узабрацца на тыя „могілкі" за клунішчам, і маем панараму як па люстры вады, — аж да ззяння гарадоцкай царквы. З крыніц ведаем, што ўся ваколіца мела дачыненне да старажытнага роду Хадкевічаў. Рыгор Хадкевіч за землі каля мястэчка Васількава, якія перадаў каралю, атрымаў ад Зугмунта Аўгуста 22 сакавіка 1567 г. вёскі каля Гарадка — Супрасль Мсціботаўскую (сёння Зарэчаны), Меляшкі і тыя ж старажытныя Белявічы.

Былі Меляшкі беларускай вёскай, так сказаць, з касцьмі.

— Паявілася многа іншых сем'яў з малымі дзецьмі. Ці будуць умець гаварыць па-беларуску? Ой, хіба не. Тут многа з Мазур прыехала, між іншым, з Гіжыцка. Ёсць і з Торуні, — кажа Крыся Пятэльская. — Тут шмат людзей умірала, маючы сто гадоў. Ліда Госцік, баба Люба Лавіцкая, Вера Лявіцкая, баба Марыся... Добрае месца на жыццё.

— Гэту хату Васілёву — хата нумар 37 — купіў з Элка чалавек, за граніцаю робіць. Ужо столькі новых сем'яў пасялілася ў Меляшках, — кажа Сяргей Госцік. — Зусюль іх панаязджала. І не спадкаемцы, а проста пакупнікі. Маладых многа. І не так каб на лета, на дачы хаты куплялі, а проста жывуць. Адна дахтарыца, другі ў вайсковасці робіць...

— Цяпер столькі тут новых, і то цэлых сем'яў. Гарасімавы з Гарадка, з Дзернякова, з Беластока прыбылі... З-пад Сувалкаў. З Італіі... У Сонькі Крупіцкай новыя людзі жывуць. Сёлета зноў новыя сем'і ў нас аселі. І старэйшыя людзі таксама хаты купляюць, ужо пенсіянеры — спакою хочуць. У Барысовай хаце ўсё з сярэдзіны выкінулі, страху здзерлі, робяць нанава, — удакладняе Андруша Пятэльскі.

Было. Чужыя людзі падымаюць на старых падрубах аднаўленыя хаты старадаўніх меляшкоўскіх фамілій. Ці будзе як калісь, пакуль жылі сястра Янука Дарашкевіча Люба Лавіцкая (дажыла да без двух тыдняў да сотні) і акцёрка ад Тамары Саланевіч Вера Лявіцкая (ціха адышла ў 97 гадоў) і гарманіст ды фокуснік Юрка Дамань, родам з Плянты (памёр у маі 2014 года). Ставілі тут і п'есы, усёй вёскай, а жанчыны прадстаўлялі таксама і мужыкоў! І якая школа была! Калісь доктар з Гарадка, Юрка, сын Ларысы Геніюш, пісаў у «Ніве» ў «Меляшкоўскім караваі»: «Аматарская пастаноўка сапраўднага вясковага вяселля расславіла ў апошні час вёску Меляшкі ва ўсім беларускім і не толькі беларускім асяроддзі. Не адзін глядач першы раз у жыцці скаштаваў па-дзявочаму чыстае, народнае цеста — каравай... Мала хто аднак ведае пра тое, як і на штодзень бойкае меляшкоўскае месіва буйна булькае, падрастае і лепіцца па-новаму, дзякуючы жвавым рукам мясцовых кабетак: *Расці, расці каравай, цыцаты, бо ляпілі цябе каравайнічкі цыцаты*... Паверце мне, не пустыя гэта словы. Мала ў якой вёсцы так добра гадуюцца дзеці, такой струёю льецца ў іх прагныя роцікі мацярынскае малако. Шыкуцяву можна было б ставіць за прыклад усім гарадскім мацеркам. Новы доказ — адмыслова адгадаваныя хлопцы-блізнюкі, што весела брыкаюць па панадворку. (...) Нездарма штогод у меляшкоўскай школе арганізуецца дзяцінец, які ў працавітую летнюю пару здымае з жаночых плеч найклапатлівейшы цяжар. Вялікая ў гэтым заслуга дырэктара школы сяброўкі Літвінавай. Ды не толькі ў гэтым яе заслуга. Гэтая надзвычай энергічная жанчына — не толькі настаўнік. (...) А новае ўсё лепіцца. Плешчуцца ў мясцовых сажалках карпы, паяўляюцца кожны год новыя гектары плантацый трускалак, хтосьці і сярэбраных мільёнаў завёў (пчол), расце безупынна пагалоўе хатняй жывёлы. Дзве сям'і ўжо абзавяліся навенькімі «Масквічамі»... Пэўна, не ўсё яшчэ і тут добра. Буйнае меляшкоўскае цеста, напэўна не без закальцу бывае. Былі ў вёсцы чалавечыя драмы, вышчарбіла яе некалькі пажараў. Адным словам, рознае бывала. Навошта аднак успамінаць дрэннае, калі на двары вясна і меляшкоўцы дружна думаюць пра новы, лепшы ўраджай». Гэта было. Няма ўжо Лёнькі Шыкуцёвай, няма і яе мужа, і сына, і ўнука... Аднаўленая святліца стаіць. Але ў новай солтыскі, якая выйграла ў выбарах з папярэдняй на два галасы, ключ ад святліцы дастаць не так лёгка, а ўвогуле не ў суботу і нядзелю — у выхадныя дні яна не працуе... Дык я на сеціве зажартую: «а што, на Спленне солтыска не ўпусціла гасцей у святліцу?». Бо жыве вёска Меляшкі ў сеціве. Мае яна там сваю старонку па-польску і па-беларуску. Штодзень дапаўняецца здымкамі з сямейных архіваў. Шкода, што мала хто ўжо распазнае асобы на іх. Але азываюцца выхадцы з вёскі з усяго свету, нават з другога зямнога паўшар'я. І герашыяй бывае яна фільмаў, альбомаў, вершаў — так мясцовасць, як і яе людзі. Як у маім вершы: *Пяцьсот гадоў таму паміж / Гарадком і Меляшкамі / было возера. / Сухая пара. / Вакол дамоў / памерлых гаспадынь гараць кветкі. / Блакітная поўня. / Паўстагоддзя пасля пасадкі / на Месяцы / Жывая вёска Меляшкі гуляе / ля свайго крыжа / перад канцом свету.* Не, не на сваім адвечным грудку — хто дасць рады, будзе **дабірацца ў Белявічы**. У тамашнюю святліцу, з мэбляй з паўстогадовай даўнасці. З абяцаннем рамонту.

Пра Белявічы ў «Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін», у томе XIV у першай частцы ўпамінаецца, што ляжаць яны над рэчкай Туросьнай, у Беластоцкім павеце, у Гарадоцкай гміне, 40 вёрст ад Беластока, на 462 дзесяцінах. Цяпер у Белявічы на аўтобусе не дабярэшся. Калісь хадзіў аўтобус ПКС і ў Меляшкі, спыняючыся ў Белявічах, і ў Падазераны. Быццам бы не было «абсаджання» пасажыраў. Сама ехала не раз туды на ПКСе, людзі не бралі білетаў у вадзіцеля. Самы вінаваты? Цяпер на працу ў Беласток дабіраюцца на сваіх аўто, калі хто мае. А аўтамашын — паўнютка, асабліва сёння. Ёсць і маторы, і веласіпеды з усяляких вёсак з разлеглай (адной з найбольшых у краіне!) Гарадоцкай гміны. Прыехалі на свята, якое мае пагадзіць таксама і вёску Меляшкі, таксама выхадцы з гэтага ваколля. Андруша Пятэльскі прадстаўляе мне вядомага доктара Яна Кахановіча з сям'ёй — ён выводзіцца з Белявіч. На лавачках пасядалі старажылы і малечы. Пад гучную музыку можна перакрыкнуцца, а калі не — па паламаных усходках увайсці ў святліцу і пагаманіць. Пасля тут стане вельмі багата і смачна на сталах... Гэта так вяскоўцы талакой угасцілі ўсіх, хто дабраўся на фэст.

— Трыццаць лет таму была тут білетаваная забава! — успамінае Марыся Кулікоўская. — Ой, каб так часцей тут арганізавалі забаву! Будзем войта бурыцьнамаўляць, каб даў нам крыху асвяжыць святліцу! Каб рушыла штосьці, каб больш маладых збіралася. Тут і клуб калісь у нас быў.

— А нас унучак прывёз самаходам, бо з-пад Гарадка далёка ісці, унучак на бацюшку вучыцца, — цешыцца пані Валя.

— О ля, і Госцічка прытэпала, а так не бачыла б нічога! А наша святліца, зараз палічу, мусіць у 1959 або ў 1960 годзе паставлена. Чаму я запомніла... Бо як Шурык Яроцкаў жаніўся, з Нінкаю, то тут яшчэ падлогу толькі накінулі...

— Тут такое цэнтральнае месца ў гміне. І трыццаць пару лет таму я тут іграў на сцэне! — кажа Толік Харужы. — Помню нават у якім сэвдры выступаў! Санямі нас сюды прывезлі. Завіруха такая была! Янак Філановіч іграў тады са мною, Янка Ліс, Мірак Дзярманскі... Весела было і файна!

Пачалося з песень маладога пакалення — ад ансамбля «Гуляй душа», праз іншыя гарадоцкія калектывы. Зоркай былі, вядома, «Прымакі». Не шкадавалі пляскання ў далоні слухачы, без намоваў шчыра «паляпаць».

— Якая я шчаслівая! — цешылася Малгося Пятэльская з Беластока, якой удалося заспяваць разам з улюбёнымі «Прымакамі» на сцэне беларускую песню. — Усе вельмі задаволеныя! Шкода, што мая бабуля Ніна не дала рады дабрацца на сваім ходзіку з Меляшкоў. Ад яе хаты сюды больш за кіламетр! А то заўжды на Спленне гуляла ў Меляшках! Маёй бабулі ўжо 85 гадоў!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Солтысы Белявіч Генрык Гарадавенка і Меляшкоў Лёня Лавіцкая



Эва Анджаеўская, з хаты Трахімчык – «Эва Тамашова» (трэцяя злева): Я тут жыву 50 гадоў! Жыву тут, працую ў Беластоку. Тут маіх двух сыноў. Мой дзед будаваў Меляшкі, Пяшчанікі...



Янка, Весік, Толік, Андруша: Калісь то тут гулялі!

## Найпрыгажэйшыя вершы аб каханні

У пачатку верасня гэтага года выйшла з друку кніжка паэзіі на польскай і беларускай мовах пад загалоўкам „Najpiękniejsze wiersze o miłości". Выдаўцом зборніка — тыражом у 1 000 асобнікаў і аб'ёмам у 136 старонак — з'яўляецца Гарадская публічная бібліятэка імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы. У кніжцы прыгожыя лірычныя вершы ды эротыкі 34 аўтараў на польскай і аднаго аўтара на беларускай мовах. Паэты з розных мясцовасцей у Польшчы, у тым ліку з Варшавы, Кракава і Беластока, даслалі іх на Агульнапольскі паэтычны конкурс „Najpiękniejsze wiersze o miłości".

У паэтычным зборніку — у яго прыгожая вокладка — тры вершы на беларускай мове Кастуся Целушэцкага з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. На польскай мове вершы напісалі Малгажата Андрасюк, Жанэта Баркоўская, Барбара Гаўрылюк, Зэна Якуць, Валянціна Ясюк, Славамір Кулік, Эдвард Ліпінскі, Вера Масайла, Караліна Навіцкая, Леаніда Арабчук, Данель Пілюцік, Уршуля Падгаецкая і Вікторыя Свентахоўская — усе яны з Гайнаўкі ды Марцін Вашкевіч з Белавежы. Кніжка даступная ў ГПБ у Гайнаўцы.

Прамоцыя кніжкі адбылася 9 верасня гэтага года ў бібліятэчнай чытальні для дарослых у Гайнаўцы. Вершы на беларускай мове Кастуся Целушэцкага прачытала маладая паэтэса Наталля Васько з Тарнаполя Нараўчанскай гміны (яна зараз вучыцца ў Гайнаўцы) ды так прыгожа і пранікнёна, што аўтару ад уражання памакрэлі вочы. Была гэта вельмі ўдалая аўтарская сустрэча. Слухачы атрымалі кніжкі з аўтографамі паэтаў. Шмат іх падпісаў Кастусь Целушэцкі. **(яц)**

## Станоўчае супрацоўніцтва

Гміна Дубічы-Царкоўныя станоўча ставіцца да супрацоўніцтва з паявятовымі ўладамі. За апошнія восем гадоў рэалізавала шматлікія супольныя інвестыцыйныя задачы. Актыўна ўдзельнічала ў рэалізацыі праекта «Перабудова павятовых дарог на тэрыторыі гміны Дубічы-Царкоўныя — 2007-2015 гады». Мэтай праекта было паляпшэнне камунікацыйнага доступу на абшары гміны. У эфекце моцна змянілася лакальная дарожная структура і выгляд вясковых вуліц. Цвёрды насціл пракладзены на павятовых дарогах, якія пралягаюць праз Істок, Вітава, Чахі-Арлянскія, Рутку (адрэзак павятовай і гміннай дарог) і на частцы дарогі Вітава — Доўгі Брод. Вартасць праекта 689 тыс. зл. Палова квоты г.зн. 344 тыс. зл. паступіла з Павятовага старацтва, другое ж столькі — з гміннай касы.

Варта адзначыць, што ў рамках цывілізацыйнага прагрэсу на тэрыторыі гміны былі рэалізаваны 72 праекты агульнай вартасці 57 млн. зл. Прытым датацыі Еўрапейскага саюза ды іншых устаноў склалі 50 млн. зл., уласныя сродкі — амаль 5 млн. зл., больш за 2 млн. зл. было пагашана банкавымі крэдытамі. **(ус)**



# Ніколі я не заспяваў той самой песні аднолькава

**Уршуля Шубзда: — Аб чым спявае Твая Гарадзеншчына? На якой мове?**

**Марцін Ліцьвінка**: — Яна неадназначная. Я збіраў матэрыял на даўняй Заходняй Гарадзеншчыне. Цікавіла мяне паўночна-заходняя частка Беларусі і паўночная частка Сакольшчыны, Аўгустоўшчыны, а таксама Сувальшчыны. Збіраю песні аўтэнтычныя — так польскія, як і беларускія, ці на гаворцы. Здараецца так, і гэта вельмі часта, што адна песня выступае як у польскім, так і ў беларускім варыянтах. Нават працуючы са сваімі вучнямі, часта прадстаўляю ім тую ж самую песню на дзвюх мовах. Аднак я заўважыў такое правіла, што найбольш архаічныя песні захаваліся якраз не ў польскім варыянце, але менавіта на гаворках. Песні на польскай мове гэта перш за ўсё бяседныя, лірычныя творы, але калі гаворка пра тэксты і мелодыю — найбольш вартасныя тыя ж на дыялекце. Я стараюся, каб моладзь пазнала ўсе песні, як польскія, так і беларускія. Таксама заўсёды гавару ім, дзе спяваюць дадзеную песню, каб яны мелі магчымасць уявіць сабе, якая на іх тэрыторыі была калісь мова, культура...

**— Гэта своеасаблівыя заняткі па гісторыі рэгіёна. Непаўторныя, бо песні нясуць з сабою не толькі моўны пераказ, але таксама культурны. Як доўга працуеш з моладдзю?**

— Ужо некалькі гадоў, але мушу прызнацца, што гэта даволі складаная справа, паколькі няма ў мяне педагагічнай адукацыі. Я скончыў спецыяльнасць веды аб тэатры, але спяваю ўсё жыццё. Але і я не шукаю ўжо адукацыі ў гэтым напрамку. Так як людзі калісьці без нейкіх тэарэтычных ведаў ішлі наперад, так і я гэта ўсё прымаю, скажам, «на хлопскі розум», інтуітыўна. І таксама не аналізую песень як музыколаг ці этнограф — проста пераказваю далей. Хачу, каб мае вучні мелі пачуццё, што гэта аўтэнтычнае: так як бярэцца рэцэпт ад бабулі на пірог, так як выносім традыцыю з хаты. Так і ў гэтым выпадку проста спяваем песні нашых дзядоў. Хачу, каб вучні пачулі, што гэта не рэчы, якія хоча ім навязаць нейкі навуковец, але што тыя песні — элемент іхняй тоеснасці.

**— А Ты сам на аснове сваёй працы, на захапленні Гарадзеншчынай, песнямі пабудаваў сваю тоеснасць? Спазнаў сябе?**

— Можна сказаць, што ўсё пачалося са спеву. Хаця ў мяне няма ў гэтым напрамку адукацыі, але мая сям'я вельмі музыкальная. Але напэўна ёсць так, як гаворыш. Песні збіраю з гэтага староння, з гэтых мясцовасцей, на якіх жылі мае дзяды, прадзеды... Але, як бы гэта не гучала, адчуваю такое пачуццё місіі. Таму што маю свядомасць, што калісьці былі народныя спевакі, пазней доўга-доўга нічога і цяпер трэба гэта вяртаць. Бо з аднаго боку сустракаюся з людзьмі, якія з'яўляюцца носьбітамі архаічнай культуры, з другога — сам пераказваю яе сваім вучням. На самой справе адчуваю такую патрэбу, каб сабранае перадаць далей. Не пакідаць яго толькі для сябе. І так, сапраўды, праз песні я пабудаваў сваю тоеснасць.

**— Якую? Кім сябе лічыш? Ці не патрабуеш гэтага азначаць?**

— Гэта цяжкае пытанне. Але так, сапраўды, не шукаю адназначнага адказу. Чалавек пагранічча — думаю, што гэта будзе трапнае акрэсленне. Я размаўляю галоўным чынам па-польску, але адначасова не маю вялікіх праблем, каб паразмаўляць на гаворцы. Таксама шмат у мяне сяброў розных нацыянальнасцей і веравызнанняў, з якімі размаўляю без ніякай прадузятасці. Часта разам спяваем, таксама на адной мове: на гаворцы. Але, і тут напэўна вялікі ўплыў маіх дзядоў. Лічу, што маім месцам, айчынай з'яўляецца якраз Заходняя Гарадзеншчына. Тут заўсёды мяшаліся розныя рэлігіі, культуры, мовы...

**— Ты сказаў, што з Цябе такі этнограф-спявак самародак. На аснове чаго ты ацэньваеш каштоўнасць песні?**




**Марцін Ліцьвінка** нарадзіўся ў Ліпску, што над Бобрай. Выпускнік Тэатральнай акадэміі ў Варшаве. Маючы 36 гадоў, ужо двойчы быў стыпендыятам Прэзідэнта горада Беластока ды Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны. Не толькі збірае архаічныя песні з Гарадзеншчыны, але таксама вядзе майстар-класы па спеве. Жыве ў Рагажынку, што пад Ліпскам.

**Скуль ведаеш, што вось гэтая песня з'яўляецца архаічнай, старадаўняй?**

— Я сапраўды шмат спяваў і спяваю далей. Праз прызму ўсіх песень, якія я чуў, якія праспяваў, па мелодыі, па словах умею адчуць ці яна архаічная, ці больш сучасная. Навуковец ацэніць навукова, а я, як ужо раней сказаў, «на хлопскі розум». І, сапраўды, ніколі мяне інтуіцыя не падвяла. Калі выступаю на фестывалях у Казімежы, пасля выступу падыходзяць да мяне этнографы і таксама захапляюцца праспяванымі мною песнямі.

**— Вось менавіта Ты з'яўляешся адным з лаўрэатаў сёлетняга фестывалю ў Казімежы ў катэгорыі спевакоў і салістаў. Які рэпертуар Ты падабраў? Былі ў ім беларускія песні?**

— Я падабраў найбольш архаічныя песні. І сярод трох песень, якія я выканаў, была адна на гаворцы — «Палажу кладку вярбову».

**— А сярод тых, якія ўдалося Табе сабраць, маеш свае жамчужыны? Або такія песні, якія спяваеш, скажам, седзячы за камп'ютарам?**

— Так (*смех*), вядома, маю такія песні. Напрыклад жніўныя або сенакосныя — крыху іх ёсць. Усё залежыць ад патрэбы і настрою. Так як я ўжо сказаў, мая сям'я вельмі музыкальная. Часта ў нас спявалі пры нагодзе розных святаў, але таксама для звыклай прыемнасці. Я заўважыў, што мой голас на працягу гадоў таксама памяняўся. Хаця не з'яўляюся прафесійным спеваком, ведаю, што ён эвалюцыянуе, развіваецца. Нават у тым жа Казімежы, у якім выступаю ўжо некалькі гадоў. Людзі цяпер звяртаюць увагу, што ўдалося мне разбудаваць свой голас. З аднаго боку ведаю, што гэта нейкая здольнасць, талент, але з другога таксама праца. Напэўна патрэбныя страсць, захапленне. Я таксама не ведаю, калі дасягну вышыню, калі ўвогуле яе дасягну.

**— А такія поспехі, як сёлета ў Казімежы, не ўпэўніваюць Цябе ў тым, што ўжо ёсць вельмі добра?**

— Не (*смех*). У Казімежы я быў наймалодшым сярод спевакоў. Былі 70-80-гадовыя асобы, і я, якому 36 гадоў. Так што для мяне гэта вялікі поспех. Я не прабую з імі канкураваць, а больш вучуся. Ведаю, калі дажыву і Бог дазволіць, што ў будучыні буду кімсьці іншым. Усё наперадзе, спадзяюся.

**— Табе ўдалося сабраць абрадныя песні з даўняй Гарадзеншчыны. Раней хтосьці гэтым займаўся?**

— Наколькі мне вядома, не. Рыхтуючыся да паездак па Гарадзеншчыне, песень з гэтага абшару я шукаў у розных крыніцах, але не знайшоў. Хаця трэба сказаць, што песні жывуць сваім жыццём. Творчасць спевакоў гэта не толькі выконванне пачутай песні, але таксама стварэнне, напрыклад, чарговых строф. Бо кожная песня была зменeная спеваком у залежнасці ад таго, якія ў яго былі голас і магчымасці. Я таксама на занятках са сваімі вучнямі стараюся ім патлумачыць, што трэба з пашанай ставіцца да дадзенай песні, але таксама шукаць сваёй формы пераказу, даваць штосьці ад сябе.

**— А што Ты сам даеш з сябе? Бо таксама лічыш сябе народным спеваком.**

— У час выступаў, у час спявання песні маю перад вачыма асобу, якая яе мне пераказала. Ніколі я не заспяваў той самой песні аднолькава. А сваім голасам, мелодыяй спеву таксама штосьці даю ад сябе.

**— Разумею, што Тваё супрацоўніцтва з беластоцкім рэперам «Люкасыно» было спробай увесці архаічныя песні ў свет поп-культуры, у сучасны свет. Твая праца ў якасці аніматара культуры не абмяжоўваецца да, скажам, «нашэння трупа».**

— Так, гэта таксама нейкі метад. Магчыма, што людзі, якія пачулі нашу песню, пацікавяцца і схочуць дайсці да яе архаічнага варыянту.

**— Думаеш над сваёй кружэлкай?**

— Не. Яшчэ не цяпер.

**— Тады спадзяюся, што будзе магчымасць паслухаць Цябе на рознага тыпу падляшскіх фестывалях, мерапрыемствах?**

— Тут даволі дзіўная справа, але найчасцей запрашаюць мяне на Сувальшчыну, Аўгустоўшчыну ці ў Польшчу.

**— Разлічваю, што гэта памяняецца. Дзякую за размову.**

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**

# Яўрэйскае жыццё ў Крынках

Вартасныя занатоўкі даслаў мне даследчык гісторыі жыдоў Беласточчыны Тамаш Віснеўскі. Размова запісана ў арыгінале, на англійскай мове. Некалькі простых пытанняў і такіх жа простых і змястоўных адказаў. Без здымкаў, але з гукавым запісам старых песень, у тым ліку вядомага ў нас «Аляксандраўскага вальса». Так тут калісь спявалі. Аказваецца, спявалі не толькі беларусы. Ніколі я не сустрэла і, мабыць, не сустрэну героя гэтага інтэрв'ю — выканаўцу згаданых песень, хаця нарадзіўся дакладна тут, дзе я жыву цяпер, у Крынках. Не ведаю чым ён займаецца, чым цікавіцца, аб чым марыць, чаго ў жыцці шкадуе. Ці тужыць па месцы свайго нараджэння? А галоўнае, ці мы, жыхары Крынак, даваляем яму тужыць?

**— Ваша поўнае імя, калі ласка?**
— Джэймі Лайен Фрыдман (Jaime Leon Frydman).

**— Дата нараджэння?**
— 31 жніўня 1922 года.

**— Месца нараджэння?**
— Крынкі, польскі гарадок.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.**
— Было ў мяне двух братоў, маці і мой бацька.

**— Як называліся?**
— Мой бацька быў Абрагам, маці Слова, мае браты Мейлах і Шэпцле.

**— Якім было жыццё ў Крынках?**
— У той час жыццё было, у асноўным, добрае. Хадзіў я ў школу з сябрамі. Былі там жыдоўскія ўстановы, добра нам жылося.

**— Што было штуршком да выезду з Польшчы?**
— У 1930 годзе мой бацька пакінуў Польшчу. Не змог уладкавацца на працу, таму падаўся ва Уругвай. Жыў там сам, пакуль мой старэйшы брат Шэпцле не далучыўся да яго ў 1936 годзе, каб дапамагчы сабраць грошы для астатніх на пераезд ва Уругвай. Паволі ў 1937 годзе пераехала мая маці, пакідаючы ў хаце мяне і майго брата Мейлаха з нашай цёткай. Яна была сястрой маёй мамы, для нас была другой мамай. 13 кастрычніка 1938 года я і мой брат таксама пакінулі Крынкі для Уругвая.

**— Помніце, якія крамы былі тады ў Крынках?**
— Усялякія. У маёй цёткі, з якой мы жылі цягам дзесяці месяцаў, была крама з пазументам. Была яна замужам, але бяздзетная, называлася Сарэг.

**— А якія яшчэ крамы там знаходзіліся?**
— Розныя. Пякарні, аптэкі, прадуктовыя крамы, рэстараны... рознага тыпу.

**— Якой была гаспадарка ў Крынках?**
— Галоўнай галіной крынскай вытворчасці быў выраб конскіх шкур. Яны забівалі каней і дубілі шкуры. Большасць насельніцтва працавала ў гарбарнях.

**— Тады гэта быў галоўны крынскі біznес. А рэлігійнае жыццё? Хто складаў большасць — католікі, ці яўрэі?**
— Думаю што... палавіна на палавіну.

**— Ці іх суіснаванне было паспяховым?**
— У залежнасці. Для прыкладу, мы, яўрэі, жылі ў цэнтры мястэчка, а палякі — на акраінах. Каб купіць малако і іншыя прадукты, мне трэба было выйсці з цэнтра. Было мне тады восем ці дзевяць гадоў, і яны крычалі на мяне «жыд, жыд!» і кідалі ў мяне камянямі, а я толькі ішоў па малако і яйкі.

**— Ці былі ў Вас неяўрэйскія сябры?**
— Не, да дванаццаці гадоў жыцця я хадзіў у яўрэйскую рэлігійную школу, і там я інтэграваўся.

**— Якім было яўрэйскае жыццё ў Крынках? Ці былі артадоксы, кансерватары?..**
— Я запісаўся да сіяністкай моладзі, але быў у Крынках таксама яўрэйскі сацыялізм. Былі рэлігійныя і свецкія школы. Я хадзіў у школу, у якой вывучалі габрэйскую мову, а мой брат вучыўся ў сацыялістычнай школе, дзе габрэйская мова адсутнічала, была там толькі ідыш. У Крынках было добрае жыццё. Шмат жыдоўскіх устаноў, цудоўнае, яўрэйскае жыццё.

**— Раскажыце нейкую сямейную гісторыю, альбо пра сяброў.**
— Аднойчы з іншага горада прыйшла трупа з прадстаўленнем. Я заўсёды захапляўся тэатрам, фільмамі... Тады не было яшчэ кіно. Я вельмі хацеў увайсці на гэтае прадстаўленне, таму стаяў пры лесвіцы тэатра, стараючыся неяк уціснуцца ўсярэдзіну. Я любіў песні, якія там звычайна спявалі. Раптам сусед, які жыў непадалёк, прыкмеціў мяне і запытаў: «Што ты тут робіш?» — «Я хачу ўвайсці, але мне не дазваляюць». Тады ў мяне не было грошай. Я не працаваў, а мая маці канчала працоўны дзень у тры гадзіны раніцы, каб нас выкарміць і вывучыць. Тады мне ўдалося ўвайсці і гэта было цудоўна. Па сёння спяваю песні, якія гучалі тады на тым і іншых прадстаўленнях.

**— Цяпер раскажыце пра нешта кепскае, што Вас спаткала.**
— У нас не было грошай, таму што бацька не прысылаў іх шмат. Восем гадоў жыў ва Уругваі адзінока. Заўсёды не хапала грошай. Звычайна мы харчаваліся бульбай і селядцамі. Часам я заходзіў у краму без грошай, не мог нічога набыць. Прадаўцы ведалі, што ў мяне іх няма, а я хацеў з'есці нешта з гэтай бульбай. Тады яны давалі мне ляк — «сок» з бочкі з селядцамі, якім я паліваў бульбу і закусваў хлебам. Гэта быў далікатэс! Селядцы былі ў вадзе і гэтая вада мела селядцовы смак.

**— Ці былі багатыя яўрэі?**
— Так, але няшмат... двух ці трох.

**— Ці існаваў сацыяльны падзел?**
— Багатыя заўсёды былі пры грашах, а бедныя — ніколі. Нашым суседам быў фатограф. Хрысціянін, а яго жонка была жыдоўкай. Гаварыў выдатна на ідыш і звычайна здымаў увесь горад. Называўся Янэк, калі добра памятаю. Добрае жыццё, беднае, але добрае.

**— Ці былі жыдоўскія земляробы?**
— Не, не думаю, каб былі. Гэта быў горад, каля васьмі тысяч жыхароў.

**— Якія жыдоўскія арганізацыі памятаеце?**
— Было некалькі... сіяністы, Бунд, Загір. Шмат іх было. Па сёння трымаю здымкі з Першага Мая... Было мне тады трынаццаць ці чатырнаццаць гадоў...

**— Раскажыце тады пра жыдоўскую музыку.**
— Звычайна мы збіраліся ў клубе і спявалі розныя песні, шмат іх спявалі. Большасць з іх я ўжо забыў, прайшло ж больш за восемдзесят гадоў. Нядаўна ў храме ў Буэнас-Айрэсе я праспяваў песню васьмідзесяцідвухгадовай даўнасці. Правёў цэлыя тыдні, прабуючы ўзгадаць музыку і словы. Але праспяваў яе і гэта было цудоўна.

**— Можаце нам праспяваць кавалак?**
— Вядома!

**Падрыхтавала Іаанна ЧАБАН**

Каўказская сінагога ў Крынках

www.inkiwspominki.blogspot.com

# 8-ы з'езд

**выпускнікоў II ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.**

## Праграма

**Пятніца 23.09.2016**
**15.00 - 20.00** — Рэгістрацыя ўдзельнікаў
**17.00** — Адкрыццё выставы Міраслава Здрайкоўскага
**19.00 - 23.00** — Сяброўская сустрэча на школьным панадворку

**Субота 24.09.2016**
**8.00** — Рэгістрацыя ўдзельнікаў
**9.00** — Набажэнства ў Міхайлаўскай царкве (вуліца Міцкевіча)
**11.30** — Афіцыйная частка:
— Адкрыццё З'езду
— Выступленне дырэктара і гасцей З'езду
— Артыстычная частка
— Успаміны выпускнікоў *
**14.30** — Абед (рэстаран **Падлясянка**)
**15.30** — Пашана памяці памёршых выпускнікоў і настаўнікаў
**19.00** — Баль выпускнікоў

**Нядзеля 25.09.2016**
**10.00** — Класная сустрэчы ў школе

* пасля ранейшай дамовы з Арганізацыйным камітэтам



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ
Гімназія ў Нараўцы

## Музыка

Для вас гэта толькі
ноты.
А для мяне мая музыка
іграе штодзень...
Устае са мной
і
кладзе мяне спаць.
Яе тон усміхаецца
да мяне з люстра
і
ідзе са мной у акно.
Яна заўсёды са мной.
Ціха калышацца з ветрам
і
спявае мне песні,
якія ведаем толькі мы
- гэта мая музыка
- мая душа.




## ЛІСА І ЦЕЦЯРУК
*(беларуская народная казка)*

Сядзеў цецярук на бярозе, ну і пеў свае песні. Пачула яго ліса, і захацелася ёй цецеруком падсілкавацца.

Вось яна падышла да дрэва і гаворыць:

— Слухай, цецярук, ці не чуў ты, што цяпер пайшлі новыя законы, каб усе звяры мірна жылі, адзін аднаго не чапалі, хадзілі б па зямлі. Прама прыказ ёсць, я яго сама чытала.

А цецярук ёй гаворыць:

— Добрыя законы, але чую, што недалёка сабакі брэшуць, ці не сюды яны бягуць.

Збіраецца ліса ўцякаць, а цецярук ёй кажа:

— Дык пачакай, можа яшчэ які закон прынясуць. Раз такі закон, каб адзін аднаго не чапаў, дык няма ж чаго баяцца.

Ліса гаворыць:

— А можа, яны яшчэ прыказаў тых не чыталі, то трэба ўцякаць.

І дала драла. Так што не ўдалося абмануць.


Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ (першая справа) з сяброўкамі

## Магда Бяляўская

Калі гімназістка Магда Бяляўская з Нараўкі чытае ўголас свае вершы, вібруе паветра. Словы сплятаюцца з сабой як дзявочыя косы. У іх закладзены прызнанні, пачуцці, тайны. Хвіліны з вершамі Магды важкія і набрынялыя ў нявыказаны змест. Аднак, пакуль выгучыць слова і з'явіцца перад вачыма вобраз, слухач падумае пра музыку. Яна, быццам чарадзейная палачка, абуджае пачуцці і лагодзіць вострыя кшталты, *ідзе ў акно і ўсміхаецца ў люстры...*

Магда — лаўрэатка Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Удзел у конкурсе хутчэй за ўсё лічыць прыгодай і, як сама кажа, часам піша, каб перабіць нуду.

Самі прачытайце і рассудзіце.

ЗОРКА

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ

## Зямля

Мая родная зямля,
пакрытая травой і збожжам.
Дзе бусел па полі ходзіць,
дзе дзеці басанож бегаюць,
дзе бабулі на лавачцы
сядзяць.
І тут мне так добра,
калі вечарам туман пакрывае
зямлю.
Я хачу, каб яна пакрыла
калісьці мяне.

## УВАГА КОНКУРС! № 38-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 25 верасня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**У рыжай разбойніцы**
**хвост як мятла.**
**Ад кары ўцякла —**
**сляды замяла.**
**Л.....**

**(Васіль Жуковіч)**

**Адказ на загадку № 35: павучок. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага і Сара Скаўронская з Беластока. Віншуем!**

# Няроўны шанс

Цягам апошніх гадоў выспела ў нас дзіўная з'ява. Мова пра рэальнае веданне беларускай мовы. У пачатку трэба сказаць, што амаль усе дзеці і школьнікі любяць хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Часам да гэтага спрычыняюцца бацькі, часам сябры або настаўнік, які займальна вядзе заняткі. Усе, спадзяюцца вывучыць мову, каб на ёй гаварыць, чытаць і пісаць. Ці такі план здзяйсняецца? Ёсць у нас школы, дзе беларускую мову вывучаюць з захапленнем, ангажаванасцю і прыкладнай стараннасцю. Вучні, не толькі лаўрэаты беларускіх конкурсаў, умеюць выказацца па-беларуску, напісаць беларускі тэкст на фейсбуку, чакаюць кожнага нумара «Зоркі», таксама і ў час канікул. У ходзе журналісцкіх майстар-класаў, то-бок Сустрэч «Зоркі», вучні самі прыдумваюць небанальныя тэксты — прыкольныя фельетоны, жывыя гутаркі і інтэрв'ю, коміксы і рэпартажы. Асобнае месца займаюць вершы, якія памятаюцца гадамі. І робяць гэта з найбольшым захапленнем, страсцю. Адначасова адчуваюць, як файна праявіць сябе творча на роднай мове.

Іншая рэч, дзякуючы поспехам у прадметных конкурсах па беларускай мове, сотні ліцэістаў паступілі без экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы ды здабылі прэстыжныя прафесіі.

На жаль, такі пазітыў сустракаем толькі ў лічаных школах. У большасці нашых школ навучанне беларускай мове мае дэкаратыўны характар, дзе пікам амбіцыі з'яўляецца выступленне ў конкурсе «Роднае слова». Ёсць і такія школы, дзе навучанне адбываецца «на паперы». У сваіх вандроўках мы сустрэлі навучэнцаў, якія не ўмелі прачытаць два сказы па-беларуску. У адной школе, калі мы пыталі, дзе друкуецца «Ніва», гімназісты доўга думалі, а пасля гадалі і падавалі такія адказы: у Маскве, у Кіеве, у Мінску... Прытым паводзілі сябе так, быццам упершыню пачулі беларускую мову. Ну, проста і смешна, і страшна!

Навошта пра гэта ўсё пішам? Хочам вам падказаць, што, чытаючы «Зорку», вы зможаце параўнаць свае дзеянні і поспехі з іншымі школамі. Тут таксама шанц на індывідуальнае развіццё, творчыя спробы і сяброўства з аднадумцамі (усе нашы маладыя аўтары і паэты шчыра і прыгожа сябруюць!). Таксама просім бацькоў, каб час ад часу пацікавіліся вашымі дасягненнямі, або звычайна спыталі: «А што сёння было на ўроку беларускай мовы?»

**Зорка**

**Юлія Бяганская, «Зорны шлях»**

*** * ***

**Твой твар ружовы,**
**Далоні як снег,**
**Вочы блакітныя**
**І ціхі смех.**

**Гэта ўсё, што я памятаю**
**пра цябе.**
**Многа гадоў я ўжо шукаю**
**ў Мінску, у Маскве.**
**Можа хто бачыў?**
**Можа хто ведае?**

**Ружа мая зімовая!**
**Дзе ты? Дзе ты?**
**Ружа мая, блакітнавокая,**
**Скажы хоць адно слова!**

# Чараванне праз родную мову

Паслухаць прыгожы літаратурны тэкст — музыка для душы. Калі верш прадуманы і добра складзены, ён можа зачараваць душу чалавека. Напэўна талент чаравання мае спадарыня Міра Лукша. Яна прыехала на Сустрэчы «Зоркі», каб прачытаць нам творы са зборніка «Жывінкі з глыбінкі».

Сама ідэя зборніка — вынаходлівая. Да назваў падляшскіх вёсак падабраныя звяры, напрыклад, «Леў з Ляўкова» ці «Лось з Ласінкі». Героямі вершаў з'яўляюцца таксама людзі, якія жывуць у гэтых месцах. Мы мелі нагоду паслухаць, між іншым, вершы пра «Эму з Лешукоў», «Гусака з Гусакоў», «Мядзведзя з Медзвядзёў» ці пра «Вавёрку з Нью-Йорка».



Караліна Каравай, Магда Бяляўская, Іван Карсунскі

Кніжка мае арыгінальны дызайн. Пры кожным вершы намаляваны герой-звярок і карта, на якой пазначаная мясцовасць, а таксама дзвюхмоўная польска-беларуская табліца.

Сустрэча з паэтэсай Мірай Лукшай прынесла нам многа радасці. Гэта штосьці незвычайнае прысесці і ў лагоднай цішы паслухаць вершы на роднай мове. А калі іх чытае сам аўтар, гэта больш чым сардэчны падарунак, гэта чараванне.

**Наталля ВАСЬКО, «Зорны шлях»**

## Вершы Віктара Шведа



### Бездапаможны татка

Бацька справу даследуе
І сыночка пытае:
— Ці твой настаўнік ведае,
Што я табе памагаю?

— Аб дапамозе — нічога,
Аднак ён штораз злейшы.
Сказаў мне многа злога:
— Бачу, ты штораз дурнейшы.

### Размова з настаўніцай

— Пытала настаўніца, тата,
Ці маю сястру або брата.
— А што адказаў ты,
хлапчына?
— Што я ў бацькоў адзіны.

Настаўніца доўга маўчала,
Пакуль нешта мне адказала
З нейкай вялікай трывогай:
— Слава Ўсявышняму Богу!

## Польска-беларуская крыжаванка № 38-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34:**

Сцяг, пік, цана, цукерка, сад, бард, ар, Саба, ар, пяро, яма, іл, бурат. Сані, цэбар, сяк, цукар, мак, боб, неба, пара, яр, крама, квадрат.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nos / Kartka | | | | Sonet / Zebra | | Żaba / Rosada | | | |
| | Bazar / Ar | | | | | | Ara / As | | |
| | | Noga | | | | | | | As / Łódka |
| | Horyzont | | | | | | | | |
| | | | | | | | Wio | | |
| | Teatr / Ha! | | To | | Cha! | | La | Rabin / Jad | |
| | | | | Golec | | | | | |
| Agat | | Oda | | | | Pokarm | | | |

VI Бульбафэст, які аб'яднанне «Крыніца» з Ліпін у супрацы з войтам Гайнаўскай гміны наладзіла 3 верасня ў сваёй вёсцы, каля прыгожа адрамантаванай святліцы, быў крыху іншым ад мінулагодніх. Канешне, галоўным героем мерапрыемства была бульба. Пяклі яе ў вогнішчы і раздавалі ўдзельнікам мерапрыемства, чысцілі падчас конкурснага спаборніцтва. Бульбяныя стравы можна было купіць, паспрабаваць і ацаніць іх у адмысловым конкурсе. На сцэне выступалі музычныя калектывы з беларускімі песнямі і праводзіліся конкурсы, прымеркаваныя да праекта «Вёска Ліпіны з пахам зёлак», які рэалізавалі ліпінскія мужчыны, таксама згуртаваныя ў «Крыніцы». Наведваючы раней асоб, якія вырошчваюць зёлкі, і архімандрыта Гаўрыіла на паўвостраве Кудак, вучыліся яны зёлкавай справе. Падчас завяршальнай часткі зёлкавага



# VI Бульбафэст у Ліпінах

праекта, фінансаванага ў рамках праграмы «Дзейнічай лакальна», на свята бульбы была нанята ў Клодзку пленэрная патэльня. Кухары, якія абслугоўвалі самую вялікую ў Польшчы патэльню, зварылі на ёй з дадаткам бульбы, агародніны і зёлак гуляш на 600 порцый і раздавалі яго сабраным.

Падчас свята бульбы можна было купіць іншае, не толькі бульбяное харчаванне, і напіткі.

— Мы сёлета зрабілі стаўку перш за ўсё на прамоцыю здаровага ладу жыцця. Пры падрыхтоўцы фэсту занятыя былі многія жыхары Ліпін, працаўнікі Гміннай управы ў Гайнаўцы і Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах, жыхары Гайнаўкі, а нават і Беластока. Многа людзей хацела нам дапамагчы. Дзякуючы іх ангажаванасці была наладжана вялікая імпрэза. Атракцыёнам мерапрыемства з'яўляецца самая вялікая ў Польшчы пленэрная патэльня, — заявіла Кацярына Якубоўская, старшыня аб'яднання «Крыніца» і заадно солтыс вёскі Ліпіны.

Іаанна Кірылюк з «Крыніцы» звярнула ўвагу на ролю бульбы ў штодзённым жыцці. Беларусы ўжываюць яе пры падрыхтоўцы многіх страў і таму называюць іх бульбашамі.

— Жыхары Ліпін актыўныя. Мы ім толькі дапамагаем ладзіць бульбафэсты. Сярод шматлюднай публікі бачу жыхароў Дубіч-Асочных, Новага Беразова і іншых вёсак, што сведчыць аб штораз большай зацікаўленасці бульбафэстамі насельніцтва нашай гміны. Сёння многа дзеецца на пляцоўцы, а выступленні выканаўцаў на сцэне з'яўляюцца толькі дапаўненнем прапаноў бульбафэсту, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Калі абслуга пленэрнай патэльні праводзіла кулінарныя конкурсы, на конкурсныя пытанні лягчэй было адказваць жанчынам, якія часцей займаюцца на кухні. Але некаторыя мужчыны таксама добра справіліся з кулінарнымі пытаннямі, асабліва аматары кулінарыі.

На свята бульбы быў запрошаны Адам Красько — земляроб і бульбавод з Пасечнікаў-Вялікіх, вядомы перш за ўсё з тэлепраграмы «Селянін шукае жонку». Падчас фэсту заахвочваў ён да здаровага ладу жыцця і выступіў з песнямі.

— Я зараз спяваю па-польску, але падабаюцца мне беларускія песні і намерваюся ўключыць іх у свой рэпертуар. Гэта павінны быць новыя песні, а не такія, якія ўжо кімсьці выконваліся. Я апошнім часам супрацоўнічаю з доктар Эвай Дамброўскай і, карыстаючыся яе агародніннафруктовай дыетай, пахудзеў на 18 кілаграмаў. Вялікае значэнне маюць таксама заняткі на свежым паветры. Зараз я піва ў рот не бяру і адмаўляюся ад тлустага харчавання. Цяпер, калі я менш трэніруюся, крыху папаўнеў. Аднак не здаюся і не адракаюся ад дыеты. Калі жыву дома, стараюся рэгулярна хадзіць з палкамі па роварнай сцежцы, якая бяжыць непадалёк ад майго дома, збоку ад дарогі з Гайнаўкі ў Кляшчэлі. Спачатку аднасяльчане крыху падсмейваліся з мяне, але цяпер маладыя сталі з мяне браць прыклад, — сказаў мне Адам Красько. — Перадайце прывітанні чытачам «Нівы». Жадаю ім, каб не адракаліся ад сваіх мараў, а намагаліся іх рэалізаваць, незалежна ад цяжкасцей. Варта таксама дбаць пра сваё здароўе і акружаючую нас прыроду.






■ Адам Красько з Пасечнікаў-Вялікіх: — Прывітанні чытачам «Нівы»!

Сола выступілі яшчэ Ілона Стасінкевіч з Гайнаўкі, якая здабыла прызнанне ў музычным конкурсе, арганізаваным тэлеканалам «Польсат» і Юліта Кічкайла з Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы, адкуль удала запрэзэнтаваўся таксама калектыў, якім апякуецца Агнешка Андраюк. Маладыя выканаўцы, выступаючы на сцэне, набіраюцца адвагі, якая асабліва патрэбная асобам з абмежаваннямі.

— Тут публіка добра ўспрымае нашы выступы, а нашы выхаванцы могуць яшчэ адпачыць пасля спеву на сцэне, — гаварыла мне Агнешка Андраюк, якая таксама спявала са сваімі вучнямі. Робіць яна гэта з дзяцінства ў ласінскіх калектывах. Спачатку спявала ў «Лісічках», пасля ў «Рамонцы», а зараз выступае з калектывам «Гармонь» з Ласінкі.

Раней з Ліпін у Гайнаўку было некалькі кіламетраў, зараз яны абапіраюцца аб горад. Едучы на машыне, можна не заўважыць, калі канчаецца горад і пачынаецца вёска. Мне падабаецца даўняя частка вёскі, у якой захоўваецца даўні клімат і вясковая архітэктура. Аднак новая частка Ліпін хутка пашыраецца, вырастаюць вялікія шыкарныя дамы з мадэрнай архітэктурай. У новай частцы сяла побач сябе жывуць выхадцы з нашых вёсак, якія рашыліся пасяліцца каля самой Гайнаўкі і прышэльцы з розных гарадоў Польшчы, якія пажадалі жыць каля Белавежскай пушчы, але апошніх менш. Жыхары Ліпін асабліва актыўныя на фоне іншых вёсак Гайнаўскай і суседніх гмін. Адны інвестыцыі ў гэтай вёсцы праводзіліся гміннымі ўладамі, іншыя — з выкарыстаннем сродкаў з праектаў. Зараз у Ліпінах шыкарна адрамантаваная святліца, за ёю знаходзіцца агароджаная дзіцячая пляцоўка для гульняў з багатым абсталяваннем, а далей цягнецца вялікая пляцоўка для футбола, на якой часткова праводзіўся фэст. Аднак жыхары Ліпін, згуртаваныя ў аб'яднанні «Крыніца», не спыняюцца і хочуць рабіць у вёсцы новае.

— Мы рашыліся пашырыць выкарыстанне бульбы ў дзейнасці нашага аб'яднання. Хочам стварыць у нас адукацыйную вёску, прысвечаную бульбе, з намерам прыцягнуць у Ліпіны больш турыстаў. Паслязаўтра ў нашай святліцы адбудзецца спатканне з асобамі, якія ацэняць нашу прапанову стварэння адукацыйнай вёскі і пасля будзе рашэнне. Калі будзе яно станоўчае, я пасаджу больш бульбы, каб турысты маглі спачатку паглядзець, як яна расце і ўбачыць каларадскіх жукоў на кустах. Можна будзе турыстаў завезці ў Белавежскую пушчу і паглядзець старыя дубы, якія растуць непадалёк нашых сяліб. Восенню турысты змогуць папрацаваць пры ўборцы бульбы, спячы яе на вогнішчы, падрыхтаваць бульбяныя стравы і пасля іх з'есці, — сказаў Кшыштаф Якубоўскі з «Крыніцы».

— Да дзейнасці адукацыйнай вёскі мы хацелі б прыцягнуць як мага найбольш аднавяскоўцаў, каб яны на сваіх панадворках выйшлі з іншымі прапановамі, — дадала Кацярына Якубоўская. — Можна было б прэзентаваць у Ліпінах тэхніку, якая ў мінулым выкарыстоўвалася пры вырошчванні бульбы або зварыць стравы з бульбы і частаваць імі турыстаў. Нашы сяляне кармілі бульбай свіней, курэй, гусей, а нават кароў і гэта таксама можна паказаць турыстам.

Старэйшыя асобы традыцыйна занялі сядзячыя месцы насупраць сцэны, адкуль можна было падысці па гуляш, па печану бульбу і, пад'еўшы, паглядзець выступаючых на сцэне. Удала запрэзэнтаваўся там вакальны калектыў «Верасы» з Чыжоў. У пазнейшы час выступілі жанчыны з Дубіч-Царкоўных.

— Жанчыны з Дубіцкай гміны заснавалі новы калектыў, які выступіў раней перад публікай у сваёй гміне, а сёння выступяць на бульбафэсце ў Ліпінах, — паінфармавала Міраслава Маеўская-Іванюк, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах.

Працаўнікі Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах размалёўвалі дзеткам твары і рукі. Дзеячы фонду «Яны, гэта мы» вучылі дзетак выконваць выцінанкі і прадавалі сувеніры. Наймалодшыя гулялі на пляцоўцы для дзетак. Паколькі бульбафэст адбываўся на вёсцы, са сваімі прапановамі і рэкламнымі матэрыяламі прыбылі працаўнікі Асяродка сельскагаспадарчай кансультацыі і Касы сельскагаспадарчага сацыяльнага страхавання. Калі вялікая чарга знікла, я падышоў па гуляш з дадаткам бульбы, агародніны і зёлак. Кухар сунуў мне ў рукі адразу дзве порцыі. Я адмовіўся ад другой, але калі пераканаўся, што гуляш смачны, з'еў і другую порцыю, так як рабілі гэта іншыя. З надыходам ночы старэйшая публіка адыходзіла, а на яе месца прыбывала моладзь, якая чакала танцаў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА


Клуб у Пяньках

# Каля Міхалова

Калі гара не ідзе да Магамета, Магамет адпраўляецца да яе сам. Так, вось, давялося і мне. Наракаў я, наракаў на ўвядзанне нашай публічнай камунікацыі, а яна ж, тая публічная камунікацыя ігнаравала мяне і не расцвіла перада мною веснавой кветкай. Тады ўзяўся я за дыверсіфікацыю сваёй мабільнасці і абзавёўся веласіпедам — уласным камунікацыйным рэсурсам. Гэта не абазначае майго поўнага разрыву са згаданай камунікацыяй, толькі частковы, бо ж цяперашнія пасажырскія цягнікі возяць разам з пасажырамі іхнія веласіпеды. Веласіпед гэта вельмі доўгае слова, таму дзеля ашчаднасці буду называць яго байкам, што цяпер акурат, як мне здаецца, у модзе...

Ізноў рвануў я па чыгуначнай лініі, што калісь злучыла Беласток з Баранавічамі, і зноў звалокся з цягніка ў Саколі. І пабайкаваў у напрамку Міхалова па лясных жвіроўках. У даліне рэчкі Свінабродкі побач дарогі пастаўлены леснікамі стэнды з інфармацыяй, што там водзіцца арлан. Заміж арлана я спачатку пачуў, а пасля пабачыў там пару жураўлёў.

Значна далей на лясной паляне паказаліся вясковыя будынкі; паводле мапы мела там быць мясцовасць Капцы. Заехаў туды, дарожны знак пацвердзіў назву мясцовасці, галоўная ў ёй вуліца з пясочным насцілам, а даўжыня тае вуліцы такая, што Усэйн Болт прабег бы яе ў дзесяць секунд. На адным з панадворкаў паказаўся малады мужчына, ад якога нямнога мне ўдалося даведацца, адно толькі што ў вёсцы пражывае дзясятак душ. Пытаў я таксама, ці на канцы мясцовасці можа ёсць нейкія крыжы — у Капцах іх няма, затое ёсць у Пяньках...

Вёска Капцы большая, чым мне паказалася, бо і за лесам, дзе жвіроўка выйшла на адкрытую прастору адразу мяняючы насціл на асфальтавы, таксама яе вобруб з заселенымі будынкамі. Раскіданы яны па калёніях, так як і гаспадаркі Пянькоў. У Пяньках маю ўвагу прыцягнуў будынак з надпісам на ім „Klub rolnika". У гаспадара на супрацьлеглым панадворку, застаўленым магутнай сельскагаспадарчай тэхнікай, даведаўся я, што той будынак быў калісь вясковай святліцай, а не, як я здагадваўся, школай. У гэтым клубе час ад часу адбываюцца нейкія мерапрыемствы, напрыклад урачыстасць завяршэння штогадовага Свята грыба, ладжанага ўладамі Міхалова. А школьны будынак ёсць далей, з чырвонай цэглы, ён у прыватных руках, і бадай не першага ўласніка. Сапраўды, недалёка ад скрыжавання асфальтоўкі — якая здаецца быць воссю Пянькоў, маючай іграць ролю вясковай вуліцы — з гарадоцка-міхалоўскай шашой паказалася былая школьная мураванка з праіржавелым колішнім гербавым авалам і адсутнасцю чалавечай прысутнасці там. Крыху далей пастаўлены ў 2008 годзе крыж з мемарыяльнай таблічкай у памяць памерлых ад нейкай эпідэміі 140 гадоў раней, у 1868 годзе.




Заглянуў я ў манаграфію Міхалоўскай гміны аўтарства Лешка Носа, спадзяваючыся даведацца там нешта пра загадкавую пошасць, аднак у прысвечаным Пяньках артыкуле згадкі пра эпідэмію не было. Затое ёсць там інфармацыя, што жыхары вёскі школьную мураванку паставілі ў 1910-1912 гадах.

Пяцьдзясят гадоў таму, у 1966 годзе, у Пяньках здарыліся дзве знакавыя падзеі. Першая: раскіданая па хутарах вёска была электрыфікавана. Другая: спыніў працу тамашні мастацкі самадзейны гурток. Апошняя падзея не была вынікам першай, самадзейніцкага парыву не прыкончылі тэлевізары, якія тады масава з'явіліся ў Пяньках. Прычына гэтага факту была цалкам празаічная: вялікая зала тамашняй школы, у якой адбываліся пастаноўкі гуртка, была перагароджана на дзве малыя і гурток не знайшоў у Пяньках адпаведнага для сваёй дзейнасці памяшкання. Тады жыхары Пянькоў рашылі ўзвесці ў сваёй вёсцы святліцу...

Мастацкі калектыў завязаўся ў Пяньках у 1945 годзе; спяваў ён беларускія песні ды ставіў, м.інш. „Пінскую шляхту" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, „Паўлінку" Янкі Купалы ды іншыя...

Больш за дзесяць гадоў ад заканчэння вайны ролю святліцы выконвала ў Пяньках адна з вясковых хат, якая ў палове 1950-х была папросту расцягнута. Магчыма, што ў той хаце раней жылі людзі, якія ў выніку цынічнай пасляваеннай прапаганды пакінулі сваю радзіму гэтак жа, як і трыццаць гадоў раней у выніку падобнага, толькі ў той час даваеннага, ашуканства. Пра адзін такі „рэпатрыянцкі" лёс напісаў у сваёй манаграфіі Лешак Нос...

У час гітлераўскай акупацыі немцы расстралялі шмат жыхароў Пянькоў за супрацоўніцтва з партызанамі. 8 чэрвеня 1943 года прыгаварылі яны да расстрэлу васьмярых пянькоўцаў. Расстралялі іх чаргой з аўтаматаў, а дол з іх целамі загадалі мясцовым жыхарам засыпаць. Калі людзі з'явіліся з рыдлёўкамі, пабачылі, што ў яме толькі сем нябожчыкаў — не было ў іх ліку прыгаворанага да смерці Юльяна Новіка. А ён, калі немцы ад'ехалі, падняўся і, паколькі нават не атрымаў ранення, падаўся ў лес. Разважаў ён, ці не далучыцца да партызан, але пабаяўшыся, што гітлераўцы могуць за гэта расстраляць усю ягоную сям'ю, рашыў выявіцца. На наступны дзень з'явіўся на пастарунак нямецкай паліцыі ў Міхалове. Паліцыянты здубянелі ад жаху, пабачыўшы жывым чалавека, якога яны днём раней расстралялі. Камендант папрасіў „нябожчыка" расказаць пра здарэнне. Ён расказаў, дабаўляючы, што і ў 1918 годзе яго гэтаксама „расстралялі" белыя. Камендант адпусціў яго дадому. У 1945 годзе Юльян Новік выехаў у СССР...

Войны прынеслі Пянькам вялікае дэмаграфічнае спустошанне. Калі ў 1905 годзе пражывала там амаль дзевяцьсот асоб, то ў 1945 годзе толькі 179... Лік насельніцтва надалей падаў, у тым ліку і лік вучняў тамашняй школы, якая ўжо ў 1978 годзе спыніла асветніцкую працу...

Не так даўно была завершана мадэрнізацыя шашы паміж Міхаловам і Юшкавым Грудом. На гэтым адрэзку ваяводскай дарогі № 686 была, побач галоўнага насцілу для аўтамабільнага руху, пакладзена і асобная дарожка для веласіпедаў. Гледзячы на яе з акон аўтобуса не думаецца пра яе вартасць. Але ўехаўшы на яе байкам адразу адчуваецца вялікую палёгку. Там не трэба баяцца, што нейкі бравы аўтамабіліст небяспечна зачэпіць байкера. Ну, з Міхалова ў напрамку Новай Волі, пад горку, трэба крыху папрацаваць нагамі, але на загумені Новай Волі, калі дарожка апускаецца ў напрамку нававолькіх сенажацей і цяглавой сілай байка становіцца звычайная гравітацыя, калі што нейкі час трэба тармазіць, едзецца лёгенька, быццам у пекла. І гладзенькая яна, як стол, і звязвае яна Міхалоўскую гміну быццам перавясла сноп, пасярэдзіне, ад Міхалова да Юшкавага Груда. Хацелася б, каб гэтага байкабана было больш, але і гэтая ластаўка радуе...

Даляцеў я гэтым байкабанам да дарогі ў Баршчэва і павярнуў туды. Мікола Гайдук так быў калісь, у 1978 годзе, пісаў пра гэтую вёску: „Напэўна ў назве „Баршчэва" захаваўся след жыцця простага чалавека. Справа ў тым, што баршчом, баршчэўнікам, баршчаўкай, бядрыцай ці вярломай называюць беларусы расліну, што расце на агародах, каля дарог, на ўзмежках лугоў, на беразе рэчак. Яшчэ ў мінулым стагоддзі (г.зн. у XIX — А. В.) гэтая расліна, падобна як шчаўе, лебяда і крапіва, былі асноўнай ежай беднага сялянства, асабліва вясной і ўлетку. Маладыя кветкі і сцяблы баршчу людзі елі сырымі, з усяе зялёнай часткі маладой расліны нарыхтоўвалі зяленіва, як сёння салат, варылі з лісця суп. Іменна ў назве кіславатага супу па сённяшні дзень і захавалася назва гэтай расліны — баршчу".


Крыж у Баршчэве

Калі пра баршч мова, то варта яшчэ прывесці некалькі цікавінак пра гэтую расліну. Спярша пра суп; Зыгмунт Глогер у Старапольскай энцыклапедыі: „Cichym a spokojnym ludziom uwłaczając mówią: jest jako barszcz, ani pomoże ani zaszkodzi. Ostateczną rzecz dobrze barszczowi przypisują, bo pewnie nie szkodzi; ale w pierwszej rzeczy czynią barszczowi wielką krzywdę, aby nie był pomocen zdrowiu ludzkiemu, albowiem bardzo pomaga. (...) Pragnienie po przepiciu uśmierza, warzony, jakokolwiek pożywany... także i surowy kwaszony, w gorączkach pijać bywa dobry. (...) Był jeszcze dość powszechny użytek leczniczy z tego kwasu. Piszący to pamięta, jak wszyscy cierpiący na ból gardła otrzymywali we dworze płókanie z kwasu burakowego i miodu prasnego, co dziwnie wszystkim pomagało". Самую ж расліну (*Heracleum sphondylium*), у Румыніі і сумежных краінах лічаць афрадызіякам, да таго ж гаючую гінекалагічныя і зачацевыя клопаты; быццам у Кітаі рог насарога...



Налічваецца каля сямідзесяці відаў баршчэўніку. Апошнім часам найбольш галосна пра г.зв. баршчэўнік Сасноўскага. Вялікая савецкая энцыклапедыя з 1970 года так пісала пра яго: „Борщ Сосновского — вводимое в культуру высокоурожайное кормовое (главным образом силосное) растение". Гэтую расліну, якая ў дзікім выглядзе расла на Каўказе, савецкія ўлады ў канцы 1940-х гадоў рэкамендавалі вырошчваць у еўрапейскай часці СССР, асабліва ў Прыбалтыцы і ў Беларусі, спадзяваючыся цудаў у сельскагаспадарчай вытворчасці. Неўзабаве, аднак, выявілася, што гэта вельмі шкодная і небяспечная расліна: „Так называемый цветок Геракла был завезен на территорию России из Закавказья по указанию Иосифа Сталина, за что впоследствии в народе также получил название «Месть Сталина». При кормлении животных силосом с содержанием борщевика — молоко становилось горьким, непригодным для кормления потомства и человека. У этого сорняка нет вредителей и болезней, он практически никого и ничего не боится. Как бороться с сорняком, не знают даже ученые. По их мнению, для решения проблемы нужен комплексный подход — и в ближайшее время, иначе экологической катастрофы не избежать" — падае „Белорусская деловая газета".

Пара вяртацца ў Баршчэва. У канцы вёскі, у напрамку Плянтаў, старая, пабеленая хата з дыляў. У гаспадарor супрацьлеглага панадворка, дзе стаяла машына з варшаўскай рэгістрацыяй, спрабаваў я даведацца нешта пра гэтую памятку даўняга будаўніцтва, аднак яны ведалі толькі, што ранейшыя гаспадары некаму яе прадалі. Можа чарговым варшавякам, можа неўзабаве Баршчэва стане *zamiejscowym* кварталам нашай сталіцы...

За рачулкай Руднік, на якой нетыповая для сённяшняй эпохі гаць з галля, пабачыў я вялікую стадолу ў засені высокіх ліп. Сяліба здавалася апусцелай, аднак перад хатай паказалася мужчынская постаць. Зайшоў я ў хату. У хаце, значыць у першым даступным памяшканні, прасторнай кухні, было ўсё патрэбнае для элементарнага жыцця. З расказу гаспадара даведаўся я, што быў там калісь двор, якога ўласнікамі былі ягоныя сямейнікі. Пасля ўсё забралі „рускія". Калі я ўсумніўся ў нацыянальнай ідэнтыфікацыі зямельных рэфарматараў, тады ён спытаў: „А камуна то хто?" Не стаў я пярэчыць, бо збяднелыя ў выніку ранейшага бежанства „рускія" пасля вайны масава запаўнялі тыя структуры, у якія „польскія" не надта рваліся...

Сапраўды, ва ўрочышчы Глыбокі Кут быў калісь маёнтак Улянка. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Julianka, al.[ias] Głęboki Kąt, dobra, pow. białostocki, gm. Gródek, 40 w.[iorst] od Białegostoku, Włodkowskich 1029 dz.[iesięcin]" Лешак Нос: „13 października 1831 roku Ignacy Włodkowski, były sędzia powiatu prużańskiego, kupił dla swojej żony Julii obszar ziemi w dobrach gródeckich o powierzchni 1029 dziesięcin wraz ze wsiami Barszczewo, Głęboki Kąt, Lewsze i Planty. Na obszarze tym założył folwark i nazwał go od imienia żony Julianka. W 1847 roku folwark Julianka, oprócz budynków mieszkalnych i gospodarczych, posiadał 3 karczmy (w Barszczewie, Lewszach i Plantach), młyn wodny i gorzelnię". Мікола Гайдук: „Недзе каля 1926 года ўладальнікі Улянкі падзялілі ўвесь свой маёнтак на хутары і распрадалі яго. Тады ў ваколіцы Баршчэва прыбыло многа незаможных сялян з Мазоўша, што прадалі там свае мізэрныя гаспадарачкі і набылі тут на некалькі дзесяцін болей зямлі. Вельмі цяжка, натужліва даводзілася ім станавіцца на ногі, некаторым з іх проста не хапіла сілы і здароўя, і яны выехалі адсюль".

А цяпер выязджаюць чарговыя мясцовыя. У наступны дзень, у нядзельку, заглянуў я ў царкву ў Юшкавым Грудзе. На літургіі прысутнічалі бацюшка, сем харыстак, дванаццаць вернікаў і шасцёра вяртлявых дашкольнікаў...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# III TEATRALNY FESTYVAL ODE




**23 vieraśnia (piatnica)**
**9:00, 10:00 – „Kôt u botach”** – Teatr Czrevo – pierfarmatyŭnaje čytannie
Miesca: Dom Pravasłaŭnaj Kultury (Bielsk Padlašski)

**24 vieraśnia (subota)**
**17:00 – „Apošnija Śviedki”** – Teatralnaja hrupa z Biełaruskaha Muzieja,
Miesca: Uniwersyteckie Centrum Kultury (Kampus UwB, Białystok)
**18:00 – „Čas second-hand”** – Dramatyčny Teatr u Mahilovie (Biełaruś),
Miesca: Uniwersyteckie Centrum Kultury (Kampus UwB, Białystok)

**25 vieraśnia (niedziela)**
**18:00 – „Czasy second-hand”** – Dramatyčny Teatr u Mahilovie (Biełaruś),
Miesca: Bielski Dom Kultury (Bielsk Padlašski)
**19:30 – „Dzivosnyja avantury panoŭ Kublickaha dy Zabłockaha”** – Lalečny teatr u Mahilovie (Biełaruś),
Miesca: Białostocki Teatr Lalek (Białystok)

**26 vieraśnia (paniadziełak)**
**13:00 – „Dzivosnyja avantury panoŭ Kublickaha dy Zabłockaha”** – Lalečny teatr u Mahilovie (Biełaruś),
Miesca: Kreatywne Centrum Kultury (Bielsk Padlašski)
**18:00 – „Dzivosnyja avantury panoŭ Kublickaha dy Zabłockaha”** – Lalečny teatr u Mahilovie (Biełaruś),
Miesca: Kreatywne Centrum Kultury (Bielsk Padlašski)

**27 vieraśnia (aŭtorak)**
**9:00 – „Ptuška-ciahnik-patefon”** – Teatr Busy (Minsk, Biełaruś) + teatralnyja majstar-kłasy dla dziaciej
Miesca: Dom Pravasłaŭnaj Kultury (Bielsk Padlašski)
**13:00 – „Ja j u poli verboju rosła”** – Teatr Czrevo
Miesca: Biełaruski Muziej (Hajnaŭka)
**18:00 – „Bieżeńcy”** – Teatralnaja hrupa z Biełaruskaha Muzieja
+ Prapremjera knihi „Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy” Anety Prymaka-Oniszk
Miesca: Biełaruski Muziej (Hajnaŭka)

**28 vieraśnia (sierada)**
**10:00 – „Stojki ałavianny sałdacik”** – Teatr Busy (Minsk, Biełaruś) + teatralnyja majstar-kłasy dla dziaciej
**12:00 – „Stojki ałavianny sałdacik”** – Teatr Busy (Minsk, Biełaruś) + teatralnyja majstar-kłasy dla dziaciej
Miesca: Dom Pravasłaŭnaj Kultury (Bielsk Padlašski)
**18:00 – „Ja j u poli verboju rosła”** – Teatr Czrevo
Miesca: Dramatyčny Teatr (Białystok)

**29 vieraśnia (čaćvier)**
**10:00 – „Stojki ałavianny sałdacik”** – Teatr Busy (Minsk, Biełaruś) + teatralnyja majstar-kłasy dla dziaciej
Miesca: Dramatyčny Teatr (Białystok)
**18:00 – „Popieł i pamiać. 1946”** – Teatr Czrevo – pierfarmatyŭnaje čytannie
Miesca: Dramatyčny Teatr (Białystok)

**30 vieraśnia (piatnica)**
**10:00 – „Popieł i pamiać. 1946”** – Teatr Czrevo – pierfarmatyŭnaje čytannie
Miesca: Dramatyčny Teatr (Białystok)
**18:00 – „Dziady. Bresckaja krepasć”** (kinaviersija pradstaŭleńnia) – Bierasciejski Akademičny Teatr Dramy (Bielaruś) + sustreča z reżysioram Paŭłam Passini i stvaralnikami spiektakla
Miesca: BOK - Kino Forum (Białystok)

**1 kastryčnika (subota)**
**10:00 – „Vovčok Movčok”** – Teatr Czrevo – pierfarmatyŭnaje čytannie
Miesca: Bielski Dom Kultury (Bielsk Padlašski)
**18:00 – „Dziady. Bresckaja krepasć„** (kinaviersija pradstaŭleńnia) – Bierasciejski Akademičny Teatr Dramy (Bielaruś) + sustreča z reżysioram Paŭłam Passini i stvaralnikami spiektakla
Miesca: Uniwersytet Powszechny (Teremiski)

# http://baradulin.by

Так сталася, што з пачатку гэтага стагоддзя беларуская літаратура пацярпела значныя страты — ад нас пайшлі ў лепшы свет Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін. Постаць апошняга таксама запамінальная тым, што ён, як дарэчы і Быкаў, вылучаўся на ўзнагароджанне Нобелеўскай прэміяй. Паэтычная творчасць Барадуліна была прадстаўлена ў 2006 годзе на разгляд Нобелеўскага камітэта кнігай духоўнай паэзіі „Ксты”. І хоць тады беларусы не атрымалі найпрэстыжнейшай прэміі, імя Барадуліна не паблякла, а наадварот, прыцягнула да яго вершаў новых чытачоў і прыхільнікаў. Менавіта так можна тлумачыць існаванне па працягу 2,5 гадоў пасля смерці паэта сайтаў у інтэрнэце, дзе распавядаецца пра яго жыццё і творчасць.

Пра адзін з такіх сайтаў „Ніва” распавядала акурат тры гады таму, яшчэ пры жыцці паэта, у № 42 ад 20 кастрычніка 2013 года. І дагэтуль сайт **http://www.baradulin.ru** дае звесткі наведвальнікам пра выдатную асобу. Акрамя гэтага сайта, у Сеціве існуе сайт з той жа назвай „Рыгор Барадулін”, але месціцца па адрасе **http://www.baradulin.by**.

Дадзены сайт, прысвечаны творчасці Дзядзькі Рыгора, значна адрозніваецца ад свайго „брата”, размешчанага на расійскім дамене. Бачна, што яго стваральнікі імкнуліся не толькі прадставіць вершы і распавесці пра жыццё, але і перадаць нейкую прысутнасць Барадуліна праз яго почырк і голас. На сайце мы можам як пачытаць вершы, так і пачуць, як іх чытае ўласна аўтар.

Першая старонка сайта прысвечана біяграфіі літаратара. У ён прадстаўлены розныя фотадымкі, а таксама распавядаецца пра рэлігійныя і палітычныя погляды паэта. Вялікі кавалак публікацыі аддадзены расповеду пра творчасць Барадуліна. Згодна пададзенай там інфармацыі, яго творчасць вызначаецца разнастайнасцю жанраў, вобразна-стылявых сродкаў, яркай метафарычнасцю, тонкім псіхалагізмам, багаццем моўнай палітры. „Скарбы вуснай народнай творчасці, засвоеныя з дзяцінства, сталі дабратворнай глебай, на якой прарасла, зарунела непаўторная творчая індывідуальнасць Рыгора Барадуліна. У яго творах адкрываецца жывая крыніца хараства мовы і мудрасці народа, яго традыцый і звычаяў, своеасаблівай натурфіласофіі”, — адзначаюць невядомыя аўтары. Адметна, што на старонцы даюцца як станоўчыя, так і негатыўныя водгукі на творчасць Дзядзькі Рыгора.

Рубрыка „Вершы” змяшчае творы, напісаныя „ад 1958 года і па сённяшні дзень”. Так пазначана ў анонсе. Праўда, пасля 1958 года адразу ідзе 1974 год, які адзначаны як год плённай творчасці паэта. Што ж было цягам шаснаццаці гадоў паміж імі на старонцы не пазначана, хоць з 1959 па 1973 гады Барадулін выдае больш за дзясятак зборнікаў сваёй паэзіі.

Менавіта ў рубрыцы „Вершы” цікавы карыстальнік можа пабачыць фотаздымкі аркушаў паперы з напісанымі на іх почыркам Барадуліна вершамі, а таксама пачуць голас паэта, які чытае свае творы.

Унікальныя архіўныя відэакадры абяцаюць уладальнікі сайта ў рубрыцы „Відэа”. Сапраўды, на старонцы змешчаны з дзясятак відэасюжэтаў, якія тычацца, у прыватнасці, Каляд у доме Барадуліна, чытання беларусамі яго вершаў, канцэрта яго памяці і іншых.

Старонка „Кнігі” прадстаўляе кніжкі Дзядзькі Рыгора ў электроннай версіі і дае магчымасць карыстальніку спампаваць іх.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

**Дата з календара**

Адзін з бацькоў беларусізацыі

# 125 гадоў з дня нараджэння Антона Баліцкага



Беларускі грамадска-культурны дзеяч Антон Баліцкі нарадзіўся 17 верасня 1891 г. у вёсцы Балічы (Гарадзенскі раён). У 1910 г. скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, якая яшчэ з часу навучання там Кастуся Каліноўскага захоўвала вольналюбівы дух. Пасля сканчэння семінарыі некаторы час працаваў настаўнікам. Пазней вучыўся ў Віцебскім настаўніцкім інстытуце, які скончыў у 1916 г. У час Першай сусветнай вайны ў 1916 г. быў прызваны ў расійскае войска, ваяваў на Румынскім фронце. Стаў удзельнікам расейскай Лютаўскай рэвалюцыі. Ужо ў 1917 г. актыўна ўключыўся ў беларускі рух, удзельнічаў у грамадска-палітычным жыцці — гуртаваў вайскоўцаўземлякоў, арганізоўваў беларускія школы для дзяцей сярод бежанцаў-перасяленцаў у Адэсе. Пэўны час камандаваў партызанскім аддзелам у Прыднястроўі.

З 1921 г. жыў у Мінску, з кастрычніка таго ж года стаў намеснікам наркама асветы, у 1926-1929 гг. займаў пасаду наркома асветы БССР. Гэта быў яго найлепшы час, час належнага прыкладання жыццёвых і творчых сіл. Баліцкі стварае сістэму сярэдняй і вышэйшай адукацыі, куды паслядоўна ўводзіцца беларуская мова. Другі найважнейшы клопат наркама — беларусізацыя культурна-асветніцкіх устаноў. У выніку мэтавай палітыкі наркамата па-беларуску загаварылі дзясяткі тысяч выкладчыкаў, бібліятэкараў, клубных работнікаў. Баліцкі ў гэты час напісаў шмат артыкулаў па пытаннях нацыянальнай і культурнай палітыкі. Быў правадзейным сябрам Інстытута беларускай культуры, старшынёй секцыі беларускай мовы і літаратуры. Антон Баліцкі меў вялікія арганізатарскія здольнасці, вызначаўся працавітасцю і ўменнем выбраць адпаведных супрацоўнікаў. За часам ягонага кіравання Народны камісарыят асветы распрацаваў і даволі паспяхова рэалізоўваў генеральны план уводзін усеагульнага абавязковага навучання па беларускай сістэме народнай адукацыі. У гэтую справу шмат высілкаў і практычных ведаў уклаў стары педагог Дзмітрый Сцяпура. Асабістае жыццё Антона Баліцкага таксама склалася, ён быў жанаты, гадаваў двух дзяцей.

Дзейнасць Антона Баліцкага і яму падобных, поспехі беларусізацыі выклікалі страх у Маскве. Моцныя незалежніцкія настроі ў беларускім кіраўніцтве і інтэлігенцкіх колах станавіліся рэальнасцю. У гэтым сэнсе ГПУ валодала багатым матэрыялам для фабрыкацыі справы так званай контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі „Саюз вызвалення Беларусі”. У першай палове 1930-х гг. Баліцкі быў зняты з працы наркама асветы. Аднак пасля звальнення яго не арыштавалі адразу. Напэўна, ужо тады ГПУ распрацоўвала план „вялікіх” арыштаў. Ім патрэбен быў матэрыял, каб „прышпіліць” Баліцкага да працэсу па змове. Арыштаваны ён быў ДПУ БССР 3 верасня 1930 г. у Мінску, у доме па цяперашнім адрасе плошча Свабоды, 15.

Засуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 18 сакавіка 1931 г. за „антысавецкую дзейнасць” да 10 гадоў савецкага канцлагера. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі лагер НКВД. Пры паўторным разглядзе справы 30 кастрычніка 1937 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да смяротнага пакарання. Расстраляны ў Мінску. Па першым прыгаворы рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 14 чэрвеня 1988 г., па другім — 25 сакавіка 1958 г. Асабістая справа Антона Баліцкага з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На фэсце ў Орлі

Фэст пачаўся 28 жніўня каля гадзіны 15.30 песняй „Орля, Орля” ў сумесным выкананні калектываў „Арляне”, „Вэрвочкі”, „Фэрмата” і „1/3”.

Вядучая фэст Марыёля Герман-Петручук сказала:

— Паважаныя сябры! Прыгожым гімнам „Орля, Орля” распачаўся наш сённяшні фэст, сімпатычна названы Арлянскімі сустрэчамі з беларускім фальклорам. Сённяшні фэст з'яўляецца асаблівым мерапрыемствам, якое яднае людзей, яднае пакаленні і з'яўляецца выдатнай нагодай для прыемнага правядзення часу; вядома — з сябрамі ды знаёмымі. Перад вамі, шаноўная публіка, сёння выступленні аматарскіх калектываў з Беласточчыны ды гасцей з Беларусі, вынікі конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу ў Арлянскай гміне, каляровыя феерверкі, а для шчырых аматараў добрай гульні — спевы і танцы да позняй ночы.

Першым выступіў калектыў „1/3” вучняў трох першых класаў пачатковага навучання, якія таксама актыўна працуюць у галіне беларускай культуры. Калектыў існуе з 2002 года, а апякуецца ім настаўніца Альжбета Цюлькевіч.

Чарговым выступоўцам быў Уладзімір Сасна з Пашкоўшчыны, з аўтарскім вершам на прывітанне:

На Арлянскай зямлі вас усіх шчыра вітаем,
Усяго добрага жадаем:
Ясных дзён, цяпла ў хаце —
Дай Бог на другі год яшчэ дождаці.
Няхай вас шчасце ўсё ўстрачае
Там, дзе і яно бывае,
Няхай весяліць душу і цела —
Каб жыццё весела вам ляцела.
Майце грошы на выдатак,
Няхай будзе ўсё дастатак,
Няхай падвыжка ў рок раз будзе,
Няхай цешацца ўсе людзі.
Жывіце доўга і трудзіцесь,
Жыццём сваім усё весяліцесь,
Сто гадоў дажыць жадаем,
І як пражывеце гэту сотню
— вам другую маем.
Аставайцесь доўга-доўга ў пары
і жывіце ў згодзе,
Прыміце шчырыя пажаданні
ад Сасны Валодзі!

Цікавы верш быў цёпла прыняты публікай, а спадар Сасна таго дня выступіў яшчэ раз.

Далей са сцэны паплылі чароўныя песні ў выкананні калектыву „Вэрвочкі”. Група завязалася ў 2008 годзе з патрэбы душы і жадання захавання ды перадачы чарговым пакаленням народных песень, якія з'яўляюцца багатай часткай рэгіянальнай спадчыны. Калектыў самастойна і паводле ўласнага ўяўлення запраектаваў свае касцюмы, а назву прыняў ад сяла Вэрвочкі, якога ўжо, на жаль, няма (жыхары памерлі ад эпідэміі халеры). Мастацкім кіраўніком групы з'яўляецца мультыінструменталіст Валодымір Рэва, а арганізацыйныя справы вядзе Альжбета Назарэвіч.

Пасля вясёлых песень фэст афіцыйна адкрыў войт Пётр Сэльвесюк (па-польску):

— Шаноўнае спадарства! Вітаю ўсіх сардэчна ад імя арганізатараў.

Выступаю з гэтай сцэны чарговы дзясяты-адзінаццацты раз і, верце мне, заўсёды з вялікім хваляваннем. Вітаю ўсіх сардэчна. Шаноўнае спадарства, сёлетні фэст супадае з вялікім святам, святам Успення Дзевы Марыі, святам завяршаючым літургічны год, адным з дванаццаці галоўных свят Праваслаўнай царквы. Гэтаму святу папярэднічае строгі двухтыднёвы Успенскі пост. У гэты дзень набажэнства ў царкве завяршаецца асвячэннем земляробчых плёнаў — вынікаў натужлівай гадавой працы многіх асоб. Гэтак жа і сённяшні фэст з'яўляецца свайго роду падвядзеннем усяго года і таксама хочам засяродзіцца на плёнах, якія за гэты час удалося нам сабраць. Сёння хачу звярнуць увагу на культурную і гаспадарчую дзейнасць. Знаходзімся ў гміне Орля, якая асабліва можа ганарыцца багаццем беларускай культуры. Беларуская меншасць, як і кожная меншасць, мае свае абрады і звычаі, традыцыі перадавання з пакалення ў пакаленне і дзякуючы зерням, пасеяным нашымі продкамі сёння можам збіраць багатыя ад іх плёны. Неўзабаве зможаце пачуць і пабачыць выступленні шматлікіх калектываў. Гэта жніво шматлікіх выпрабаванняў, самаахвяраванняў, цяжкай працы ды плёны іх захаплення і таленту. Знакамітым прыкладам гэтаму з'яўляецца дзейнасць калектыву „Арляне”, які сёлета будзе адзначаць юбілей 70-годдзя існавання. (Апладысменты)

Са сцэны паплылі чарговыя мелодыі. Сола выступіла Наталля Селевесюк з калектыву „Фэрмата”, а затым цэлы калектыў — трыо гімназістак.

Далей былі абнародаваны вынікі арганізаванага войтам конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу. У конкурсе, завершаным 18 жніўня, прыняло ўдзел сем прэтэндэнтаў. Перамог і атрымаў узнагароду ў тысячу злотаў Марк Мойсік з Кошак, другое месца і 800 злотаў атрымала Івона Ігнацюк з Градалёў, трэцяе месца і 700 зл. — Ірыней Копец з Кошак. Вылучэнне і 300 зл. атрымалі Івона і Цэзар Сямёнчык з Крывятыч.

Чарговымі калектывамі, якія запрэзентаваліся шматлікай публіцы (звыш трохсот асоб), былі „Арляне”, „Куранты” з Бельска-Падляшскага, печуая група з Мора, „Церніца” з Беларусі, „Астэрыя” з Бельска пад кіраўніцтвам Анны Фіты, „Вясна” з Беластока ды „Рэтра-бітс” з Гайнаўкі.

А 21-й гадзіне неба рассвятлілі каляровыя феерверкі і пачалася танцавальная забава пад музыку „Aga eN” з Бурхатаў у Бранькай гміне ды бельскіх калектываў „Kors&Relax” і „XFORT”.

Паспрыяла надвор'е; было горача. Арганізатары задбалі пра пачастунак калектывам, якія выступілі перад публікай, і запрошаным асобам у мясцовай банкетнай зале „Маэстра”. Былі прамаццыйныя ларкі з Міхалоўскай і Гайнаўскай гмін ды Кола вясковых гаспадынь з Дубін. Можна было купіць любы мёд у сям'і Грыцукоў з Гайнаўкі, Пётр Кірызюк з Орлі прэзентаваў вырабы з бярозы і саломы, Зоя Майстровіч з Рудут — вырабы з саломы, Крыстына Грыгарук з Орлі — вырабы з папяровай ракіты, Ева Жукавіцкая і Мажэна Гаворка — шытыя торбы і хатнія аздобы. Свой стэнд меў таксама арлянскі аддзел Кааператыўнага банка з Бельска-Падляшскага, які карыстаецца вялікім зацікаўленнем.

Наймалодшыя ўдзельнікі мерапрыемства гарэзнічалі на надуўных з'язджальнях. Быў рэкламны стэнд фірмы IKEA, які ладзіў конкурсы для дзяцей. Побач малой сцэны страхавая фірма KRUS праводзіла віктарыну „Бяспечная праца на гаспадарцы”... Быў стэнд гайнаўскага прытулку для сабак, таксама з атракцыёнамі. У спякотны дзень быў попыт на марозіва...

Усё пайшло па думцы арганізатараў, прыйшло і прыехала шмат народу. За парадкам сачыла ахоўніцкая фірма ды гмінныя працаўнікі. Беларуская музыка прыцягвае, кожны мог сабе нешта ўпадабаць, а танцавальная забава закончылася дзве гадзіны пасля поўначы.

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Адгаданка

1. агародніна на бігас, 2. „вусаты” горад у Магілёўскай вобласці, 3. кандытарскі выраб з фруктова-ягаднага пюрэ з цукрам у выглядзе жэле, 4. „Марсельеза” ў Францыі, 5. можа быць прамая або крывая на паверхні або ў прасторы, 6. 36 цаляў, 7. воўчае галашэнне, 8. у ім пры жыцці душа, 9. Іван IV або Мікалай II, 10. 2,54 сантыметра, 11. уліваецца ў Аку ў Каломне.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Бах, іерэй, імідж, кот, Пічэта, слой.

Рашэнне: **Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

## 18.09 — 24.09

**(22.03. — 20.04.)** 17-23.09. высветліш усе непаразуменні, вернецца табе добры настрой. Старайся хутка аформіць нялёгкія справы, але добра раскладзі сілы, бо магчымыя неспадзяваныя ўскладненні. Пасля 22.09. звярні ўвагу на патрэбы блізкіх; не падвядзі іх! Паправяцца адносіны з сябрамі; можаце пачаць супольны бізнес. У бізнесоўцаў — вялікі рух у інтарэсе. Урэгулюй старыя справы. Актыўней займіся спортам.

**(21.04. — 21.05.)** Лепшы настрой і здароўе памогуць у рэалізацыі планаў, а партнёр іх падтрымае. Асабліва да 21.09. зоркі падтрымліваюць твае дзеянні. Старайся не падпасці блізкім. Перад 22.09. вельмі пільнуйся ў падарожжы. Найцяжэйшыя праблемы знойдуць развязку. Прааналізуй свае сувязі. Нічога, што было благавата — ужо пасля 23.09. усё выпрастаецца. Змяняй сваё атачэнне. Не купляй многа і дорага.

**(22.05. — 22.06.)** Людзі вакол цябе мілейшыя і ахвотна табе паспрыяюць. Рэшта залежыць толькі ад цябе. Можаш здабыць новыя ўмеласці. Выявяцца сімпатычныя рысы твайго характару — прыязнасць, бескарыслівасць і велікадушнасць. Падзаробіш крыху граша. Блізняты з трэцяй дэкады — не прастудзіцеся.

**(23.06.—23.07.)** Схочацца крыху паленавацца (да 22.09.). З 20.09. адрозніш важныя рэчы ад малаважных. Не слухай тых, хто рассейвае неспакой. Будзеш схільны да рамантычных жэстаў. Пасля 21.09. хтось пачне капаць пад табою ямку. Пасля 22.09. найлепшы сябра папросіць дапамогі — не адмаўляйся. Ракі, якія шукаюць працу: перад вамі некалькі размоў, з якіх адна акажацца апошняй. Не дай з'есці сябе нервам, падрыхтуй адказы на нялёгкія пытанні.

**(24.07. — 23.08.)** Зрэалізуеш свае планы і знойдзеш выхад з нялёгкай сітуацыі. Маеш шанц на каханне! Ільвы з сярэдзіны знака: шыкуюцца вам далёкія падарожжы, цікавыя сустрэчы, выйгрышы. З 23.09. (да 27.09.) будзеш мець шчасце і ў каханні, і ў фінансах. Але лішне не хваліся! Ад 21.09. не рэагуй нервова, не нацiскай у бізнесе.

**(24.08. — 23.09.)** 17-24.09. не дай сябе спакусіць пустым абяцанкам. Але шырока ўсміхнецца да цябе лёс. Выкарыстай удачы і забяспечся на будучыню. Вялікая папулярнасць, асабліва да 21.09.; не сядзі дома, сустракайся. Будзеш гаваркі, інтэлігентны, дасціпны. Але не прабуй звабіць нейкага прадстаўніка ўлады ці шэфа — карысці мала, а рызыка вялікая.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш крыху марудны, невясёлы, рассеяны. Сустракайся з сябрамі, фліртуй. Пасля ўсё паправіцца. 17-23.09. будзеш падабацца і здабудзеш сімпатыю, з 23.09. вернецца табе давер да людзей. Самотныя Шалі — усміхнецца да вас шчасце! Таму не хавайцеся дома, выходзьце да людзей. Да 23.09. змяніце свой імідж. Калі не даеш рады пахудзець, схадзі да лекара, правер шчытавідку («тарчыцу»).

**(24.10. — 22.11.)** 17-24.09. пераможаш перашкоды і канкурэнтаў. Назірай за атачэннем — абдумай чужыя і ўласныя памылкі. Знакаміта на працы і ў падарожжах, ды гэта можа папсаваць адносіны. Але праблемы будуць рухавіком для істотных перамен. Да 23.09. слабавата ў сардэчных справах. Калі будзе востра дома, зрабі сабе адпачынак і з'едзь кудысьці. Можаш з поспехам пашукаць новага занятку. Не сядзі ноччу над паперамі, асабліва пасля 22 верасня.

**(23.11. — 22.12.)** 17-20.09. развінуцца твае мастацкія зацікаўленні. Добры настрой, мілыя хвіліны дома. Хопіць табе энергіі і моцнай волі для рэалізацыі планаў. 17-23.09. сустрэнеш кагосьці, хто цябе будзе распальваць і інспіраваць. Пасля 21.09. лепш пачнеш дагаворвацца з людзьмі, можаш адкрыцца перад кімсьці. Пасля 22.09. спраўней пойдзе табе з дактарамі.

**(23.12. — 20.01.)** Развяжаш праблему, якая цябе турбуе. Менш раздумвай, больш рабі. Лаві прафесійныя шанцы, але прымай пад увагу думкі іншых. Едзь на курсы, канферэнцыі і іншыя абучэнні. Працуй над сваім дыханнем, высыпайся, здарова карміся.

**(21.01. — 19.02.)** 16-20.09. можаш сустрэць кагосьці, хто з месца скрадзе тваё сэрца. 17-19.09. будзеш усё рабіць з размахам. 17-20.09. вельмі сачы за сваімі фінансавымі рашэннямі. 17-23.09. чакаюць цябе задавальняючыя, прыемныя сустрэчы. Плётка можа аказацца праўдай. Пасля 22.09. вялікія поспехі. Але ж асцярожна!

**(20.02. — 21.03.)** 20.09. удасца пераканаць табе да сябе варожую асобу. Будзеш бадзёры, энергічны, не страціш кантакту з рэальнасцю. Прыцягальная для цябе асоба акажацца добрай для рамана, але нічога больш. Рыба ў пары — разлічвай на партнёра. 17-24.09. ідэальны момант на рэалізацыю амбітных намераў. Пошукі працы перанясі на наступны тыдзень. Еж салдзіны сняданак, адмаўляйся ад багатай вячэры.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (54)

Бывае, бачыш каня, а думаеш пра карову. Штось такога тварылася са мной на «Лэбскай забаве». Хоць усе навокал называлі сябе «мужнымі валынянамі», мне хацелася думаць пра «мужных вікінгаў». Такі вобраз наклікалі старыя назовы і выгляд жанчын, якія жыва напаміналі датчанак. Падобны пераказ неслі старыя, сёння перайменаваныя імёны і тапонімы. Вось возера «Ільбле-Ольбле», у якім купаліся маладыя грудчане і плавалі грандыёзныя лебедзі, па-дацку значыць «яблык». Вадаём сваім кшталтам сапраўды напамінаў спакушальны яблык.

У карысць варажскага паходжання прамаўлялі ментальныя рэлікты жыхароў Грудкоў і Асіўцоў, то-бок Ольбле-Рускага і Ольбле-Ляцкага. Мясцовыя насіліся з пачуццём перавагі і гаварылі пра сябе «мы, лэбцы, асобная нацыя». Суседзі празывалі іх «лэбэді», прытым мянушка значыла штосьці дастойнае і лепшае. Невыпадкова прашчуры «лэбцаў» служылі ў Камень-Кашырскім замку. Мянушка найхутчэй узнікла ад дацкага слова «лэбэн», якое значыць «жыццё»!

Тут, на беразе возера Ільбле, я пачула другі варыянт песні «Ой, пайду я на той ганак». Песню ў рытме ваеннага марша праспявалі на галасы «Прыданкі» з Гуты-Баравенскай.



«Прыданкі» з Гуты-Баравенскай

Тыхы вэчур — смутны ранок (2 р)
Дэсь пойiхав мій кохан(ок)

Дэсь пойiхав тай нэ мае (2 р)
Всю краіну обійіздждай(е)

Як обійіхав всю краіну (2 р)
Кінув коня на долын(у)

Кінув коня на долыну (2 р)
Сам ліег спаты на годын(у)

Спыт годыну, спыт другую (2 р)
Шчэй трэтюю лыхую

Ой стань мылы, годы спаты (2 р)
Прышлы нымцы коня брат(ы)

Возмуть коня вороного (2 р)
Тэбэ уб'ють молодо(го)

Возмуть коня, другі будэ (2 р)
Тэбе заб'ють більш нэ буд(э)

* * *

Не менш знаёма прагучала легенда пра возера Ільбле, якая сама па сабе здавалася палескім брэндам. Але на момант вернемся на зямлю, на «Лэбску забаву». Калі праспявалі калектывы, актывізавалася мужчынская брацця. Для іх былі прыдуманы спаборніцтвы, якія самі па сабе былі дэманстрацыяй мужчынскага спрыту і грубавата-вясёлага гумару.

Адной з задач было перацягнуць — хто хутчэй — тачку з прыгажуняй. Каб было весялей, на тачку запрашалі самых важных «датчанак», якія важылі больш за сто кілаграмаў (!).

Іншай задачай было зняць падарак, завешаны на пяціметровым гладкім стаўпе. Калі ўрэшце пашанцавала аднаму кавалеру ўскараскацца на палю ды зняць пакет, усе замерлі ў чаканні аж пакажа падарак. Кавалер, быццам які ілюзіяніст, з тэатральнасцю распакоўваў здабычны пакет, каб пасля паказаць трафей. Усярэдзіне, што надта расвесяліла народ, былі звычайныя чобаты-гумоўцы.



Не менш уразіла палітычнае майстэрства Ірыны Канстантквіч. Кандыдатка ад партыі УКРОП прыехала з Луцка, каб папрасіць падтрымаць яе на выбарах, якія мелі адбыцца ў бліжэйшую нядзелю. У адпаведнасці з народным этыкетам (элегантная кандыдатка выступала ў вышыванцы) яна выказала кваціістыя пажаданні ў бок сабраных, іх сем'яў і сваякоў, нізка пакланілася народным калектывам ды прыняла ў падарунку каравай, які таксама наклікаў пажадальныя радкі і прыгожыя словы. З яе вуснаў не прагучала хоць бы адна выбарчая абяцанка. Гэты абавязак падняў галава сельсавета Іван Ішчук. Ён паабяцаў рамонт дарогі, за што атрымаў бурныя апладысменты. У доказ рамонту мела прамовіць гурба гравію, якую дзень да фэсту насыпалі ў пачатку сяла...

Яшчэ больш радасці, чым выбарчы фальклор, прынесла ваяцкая песня, якую праспявала баба Маня з «Прыданак». У мелодыі адчуваліся ці то турэцкія, ці татарскія ўплывы.

Спотыкалося літо зо зімою
Далеко чуты козака орла
Шчо ідэ з дывчыноюю-ю-ю
Шчо ідэ з дывчыной

Хорошэ грае хорошэ грае
Шчэ-й хоры спывае-е-е
Шчэй хоры спывай (е)

Молодэйэ дывчынонцы
Жалю задавае-е-е
Жалю задава(е)

Ой чы чула дывчынонько
Як я й тыбэ клыкаў-у-у
Як я й тыбэ клык (аў)

Як на твое подвуорэчко
Сывым конем ехаў-у-у
Сывым конем ехаў

Ой чы чула чы нэ чула
Я-й нэ зывалася-а-а
Я-й нэ зывалась

Я й на тэбэ козачэньку
Ны сподівалася-а-а
Ны сподівалас(я)

* * *

Спявачкі з Гуты-Баравенскай запрасілі мяне ў бяседку, каб угасціць варэнікамі і чаркай жытняй самагонкі. На стол прынеслі духмяную юху з рыбы, якую арганізатары згатавалі ўсім гасцям на вайсковай кухні. Як спецыяльнага госця мяне ўгашчалі яшчэ смажанымі карасямі і лінямі, варанымі ракамі, галубцамі, зімніай з ножак, пампушкамі з грыбамі і бульбай, чэбуракамі, песнямі, аповедамі і адмысловымі пажаданнямі.

— Мы ўжо аб'ездзілі ўсю Еўропу, а ў Польшчы не былі, — гаварылі пявунні, — во, каб нам туды папасці.

— А дзе канкрэтна ўжо выступалі?

— Усюды былі! І ў Літве, і ў Беларусі, у Луцку, і нават у Адэсе. У адной Польшчы яшчэ не былі...

У сваім рэпертуары «Прыданкі» маюць каля трыццаці інсцэнізаваных абрадаў, між іншым, архаічныя абрады як «першы пасеў збожжа» ці троічны абрад «Куста».

Дапаўненнем варажскай тэмы паслужыла легенда пра возера Ільбле. Калісь, у даўнія часы ў месцы, дзе зараз возера, высіўся сярод непраходных балот грудок. На ім стаяла белая царква з залатымі купаламі. Кожны, хто сюды прыплыў, захапляўся яе прыгожым сілуэтам, які сам па сабе напамінаў грандыёзную постаць белага лебедзя. І вось у адзін момант скалыхнулася і расступілася зямля, якая праглынула белую царкву. На гэтым месцы ўзнікла возера, якое ўпадабалі лебедзі. Яны па сённяшні дзень з'яўляюцца сімвалам Лэбскага краю.

Я папытала як маецца прыгожая легенда да бедства браканьерства ва Украіне?

— З гэтым і ў нас былі праблемы, — кажа настаўніца Галя з дзіцячага садка. — У пэўны момант нашы лебедзі прапалі. Усе думалі пра найгоршае — ну, браканьеры пастралялі. Бо з лебедзя надта смачнае мяса, ды браканьеры прадаюць іх алігархам і кітайцам. Калі нас абдзерлі з апошняй радасці, людзі моцна засумавалі. Бо ж лебедзі — частка гісторыі пра нас, пра Лэбскую зямлю. Але ў адзін дзень нашы лебедзі вярнуліся на возера. Ну, ці можа быць штось прыгажэйшае на свеце?!

У гэтым месцы я таксама замест каня пабачыла карову. Легенда пра лебедзяў магла прамаўляць у памяць вікінгаў і іх зграбных караблёў, падобных на лебедзяў, якія калісь плавалі па возеры Ільбле. І ці не ад гэтых «лэбэдскіх» караблёў славяне перназвалі птушку лебедзь, якая па-дацку гучыць «сван».

(працяг будзе)

**Ганна КАНДРАЦЮК**

**фота: Рэдакцыя «Полісся»**

ISSN 0546-1960